E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 21 (26) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ЛІСТАПАД 2003 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

## Пазіцыя

### Хто настальгуе, ходзіць у музей

У знакамітай вёсцы Мосар Глыбоцкага раёна адкрыўся унікальны для Беларусі музей цвярозасці. Ягоная экспазіцыя распавядае, як стагоддзямі алкагалізм і п'янства шкодзілі добра жыць мясцовым жыхарам.



Музей цвярозасці працуе ў капліцы Маткі Боскай Вострабрамскай, што побач з касцёлам святой Ганны. Раней насупраць храма месцілася карчма, а потым – крама, дзе прадаваліся спіртовыя напоі (галоўным чынам – «чарніла»). Намаганнямі каталіцкай грамадскасці вёскі гэты гандлёвы пункт зачынілі, а потым зусім знеслі. Дзякуючы высілкам святара Ёзаса Булькі, праблема п'янства ў Мосары ды іншых навакольных вёсках паступова сыходзіць у нябыт. Безумоўна, што галоўную ролю ў гэтым прагрэсе адыграў ксёндз. Гэта ён пад пагрозай забароны прыходзіць у касцёл вымусіў мясцовых прыхільнікаў Бахуса адмовіцца ад заганнай звычкі. Дзякуючы яго клопату і руплівасці вярнуліся да нармальнага жыцця многія тутэйшыя сем'і. Дзеці растуць не чуючы п'яных сварак, не бачачы п'яныя морды, грошы ідуць на карысць, а не на аплату атруты. А ўсе прылады для вытворчасці самагону выглядаюць у музеі, як ланцугі для катаржнікаў.



ГАРНАЛЫЖНЫ КОМПЛЕКС «ЛАГОЙСК»

# Лагойскія горкі

**За два кіламетры ад Лагойска на шашы ўжо пастаўлены ўказальнікі, куды трэба павярнуць, каб патрапіць на горналыжны комплекс «Лагойск». Рашэнне аб будаўніцтве горналыжнага комплексу было прынята кіраўніком дзяржавы ў траўні бягучага года. Заказчыкам аб'екта быў акрэслены ТАА «Трайпл». Па задуме ў гэтай мясціне павінны быць створаны нацыянальны цэнтр спартыўна-аздараўленчага турызму, які ў поўным складзе будзе мець шэсць горналыжных спускаў, пад'ёмнікі і ўсе іншыя неабходныя пабудовы. Ландшафт каля Лагойска унікальны. Нідзе болей няма такіх прыгожых пагоркаў, парослых лесам. Найбольшая вышыня пагоркаў над узроўнем мора тут сягае 323 метраў. Два першыя спускі даўжынёй 500 і 700 метраў будуць мець перапад вышыняў болей за 40 метраў. Зразумела, што гэта не Альпы, але такіх лыжных спускаў у нас яшчэ ніколі не было. Зараз тут, як кажуць, шырокім фронтам вядуцца будаўнічыя работы – фарміруюцца спускі, катлаваны пад штучныя азёры, пракладваюцца дарогі, ідзе добраўпарадкаванне тэрыторыі, вырастаюць будынкі «курортнай архітэктуры». На гэтыя самыя неабходныя работы прыйдзецца выдаткаваць болей за адзін мільярд рублёў.**

Працяг тэмы на стар. 8,9

# Агледзіны

«9 лістапада ў канферэнцзалі комплексу «Журавінка» адбылося пашыранае пасяджэнне парламенцкай фракцыі «Рэспубліка». Лідэр рэспубліканцаў генерал Валеры Фралоў растлумачыў , што парламентарыі зацікаўлены ў пашырэнні сваіх грамадскіх кантактаў і адкрытым дыялогу са структурамі адкрытага грамадства.

Было прыкметна, што роля шэраговага статыста ў беларускай палітыцы Фралова яўна не задавальняе. Ён імкнецца стаць збіральнікам беларускай апазіцыі, і суботняе мерапрыемства можна разглядаць як першую спробу магчымай кансалідацыі.

На сустрэчу былі запрошаны прадстаўнікі розных плыняў апазіцыі, але дамінавалі лідэры «пяцёркі». У зале адсутнічалі кіраўнікі сацыял-дэмакратаў Мікалай Статкевіч і жаночай партыі Валянціна Матусевіч, не бачна было прадстаўнікоў «Маладога Фронту» і «Грамадзянскага форуму», не была прадстаўлена кааліцыя жаночых арганізацый, не ўдалося прыкмеціць і калегаў генерала па парламенце, якія не ўваходзяць у «Рэспубліку».

Падзеяй праграмы стаў прыезд лідэра Саюза правых сіл Расеі Барыса Нямцова. Выступ Нямцова быў на рэдкасць канструктыўным і рэалістычным. Ён ужо не абяцаў, што дэмакратыя ў Беларусь прыйдзе з Усходу, і ўжо не распісваў прыгажосці свабоды па-расейску. Болей за тое, Нямцоў амаль адкрыта заявіў, што сённяшняя Расія рухаецца па шляху, пракладзеным Лукашэнкам. Расейскія госці не хавалі, што трэці тэрмін беларускага прэзідэнта стане магутным стымулам для ўсіх рэваншысцкіх сілаў Расеі

Паездка ў Мінск стала для Нямцова неблагой PR-акцыяй напярэдадні блізкіх выбараў у Дзяржаўную Думу. Яго суправаджаў добры дзесятак тэлекамер, і глядзеўся ён перад імі прыгожа і эфектна. Чаго, на жаль, немагчыма сказаць аб некаторых нашых лідэрах, якія паводзілі сябе як дваравая чэлядзь, якая вітала прыбылага з Першапрастольнай барына.


Фота У. Шляпак

Валеры Фралоў прэзентаваў сабраным шэраг законапраектаў, распрацаваных «Рэспублікай». Найбольш вядомыя з іх – змены ў Закон аб СМІ і Выбарчы кодэкс. Гэтыя змены дазволілі б зрабіць Выбарчы кодэкс больш празрыстым і дэмакратычным. Аднак, здаецца, ініцыятывы генерала не знайшлі дастойнага водгуку ў сэрцах запрошаных на вечарыну лідэраў апазіцыі. Па іх дэманстратыўна нудных тварах лёгка было зразумець, што садзейнічаць Фралову яны не спяшаюцца.

Узнікае ўражанне, што галоўнай задачай нашых апазіцыйных дзеячаў стала – не дапусціць канкурэнцыі на апазіцыйным палітычным полі. Нават прайграць у чарговы раз і заявіць, што «рэжым скраў перамогу», для іх значна лепей, чым дапусціць у грамадскую свядомасць новых герояў. Бо і з'яўленне «Рэспублікі» традыцыйная апазіцыя ўспрыняла негатыўна. Напачатку іх намагаліся прадставіць, як «дзіця ўлады». Аднак Фралоў здолеў дастаткова хутка заваяваць уласнае месца ў беларускай палітыцы і атрымаць да сябе павагу ў асяроддзі ніжэйшага і сярэдняга звёнаў апазіцыі. Генерал ужо стаў дастаткова ўведаным палітыкам, добра глядзеўся ў рэйтынгах папулярнасці, у яго з'явіліся прыхільнікі ў рэгіёнах і партнёры за мяжой. Аднак гэтыя поспехі ўсё яшчэ носяць хуткатэрміновы і тактычны характар. «Рэспубліка» працягвае заставацца арганізацыйна, ды і ідэалагічна цьмянай структурай. Спробы стварыць на яе базе партыю ці хоць бы палітычны рух пакуль што ні да чаго не прывялі. Рэспубліканцы ў Палаце прадстаўнікоў не скарысталі шэраг палітычна выйгрышных момантаў, каб прэзентаваць шырокай грамадскасці сваю платформу. Не вельмі зразумелай была іх пазіцыя адносна ўвядзення расійскага рубля. Не агучана пакуль і ясная пазіцыя па шмат якіх эканамічных і сацыяльна значных праблемах.

Палітычная будучыня В.Фралова ў немалой ступені залежыць ад таго, ці здолее ён зрабіць правільныя высновы з памылак і пралікаў сваіх калегаў-апазіцыянераў, ці будзе бясконца шукаць дамоўленасці з традыцыйнымі лідэрамі. Але самае галоўнае - ці здолее ён прадставіць выбаршчыкам канструктыўную і прывабную праграму, якая знойдзе водгук сярод бальшыні беларускіх грамадзянаў.

*BelarusFree.org*


Фота У. Шляпак

# Прэзідэнту Літвы пагражае імпічмент

Старшыня Сейма Літвы Артурас Паўлаўскас правёў нараду з кіраўнікамі парламенцкіх фракцый, прысвечаную юрыдычным аспектам падрыхтоўкі да працэдуры імпічменту прэзідэнту Раландасу Паксасу.

Кіраўнік парламенцкай камісіі Алозас Сакалас абнародаваў высновы, сутнасць якіх у тым, што *«прэзідэнт застаецца ўразлівым для нападаў, а ўлічваючы асаблівы статус і адказнасць кіраўніка дзяржавы, яго ролю ва ўнутранай і знешняй палітыцы, гэта ўяўляе пагрозу нацыянальнай бяспецы Літвы»*. Артурас Паўлаўскас заявіў, што *«на месцы кіраўніка дзяржавы я не стаў бы чакаць працэдуры імпічменту»*.

Камісія выявіла «некалькі інцыдэнтаў, калі інфармацыя прасочвалася з прэзідэнцкай адміністрацыі, і адзін раз, калі ўцечка інфармацыі сыходзіла асабіста ад прэзідэнта». «Уразлівасць Паксаса заключаецца ў сувязях яго атачэння з асобамі і структурамі сумнейнай рэпутацыі, такімі, як фінансавы спонсар выбарчай кампаніі прэзідэнта Юрый Барысаў і расійская кампанія Almax, якія аказвалі значны ўплыў на рашэнні прэзідэнта. Таксама ўразлівасць прэзідэнта бачная ва ўцечцы сакрэтнай інфармацыі з яго адміністрацыі», адзначаецца ў выявадах камісіі.

Тры фракцыі парламента Літвы ўжо прынялі рашэнне імпічменту прэзідэнту Раландасу Паксасу. За зацвержанне высноваў, па словах Алозаса Сакаласа, прагаласавалі 7 членаў камісіі, адзін галасаваў супраць і адзін устрымаўся. Сакалас не выключыў, што ў парламенце набярэцца 36 дэпутатаў з 141 членаў парламента, якія на падставе дакументаў камісіі могуць ініцыяваць пачатак працэдуры імпічменту прэзідэнту. Каб адхіліць прэзідэнта ад улады, за гэта павінны прагаласаваць не меней 86 дэпутатаў.

Раландас Паксас адмаўляе наяўнасць сувязяў з рускай мафіяй і адмаўляецца пайсці ў адстаўку. Дадзеныя разведкі, якія патрапілі ў прэсу, кажуць аб тым, што Юрый Барысаў, які фінансаваў выбарчую кампанію Паксаса, далучны да незаконных паставак зброі ў Судан.

# Прыкмета багатага беларуса

Вельмі проста. Калі бачыш чалавека з мабільнікам - значыць перад табой багацей, якога трэба абкласці дадатковым падаткам. Такога меркавання трымаецца старшыня пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па жыллёвай палітыцы, будаўніцтве, гандлю і прыватызацыі Васіль Хрол. Ён прапануе ўраду ўвесці з 2004 года 18-працэнтны падатак на дадзены кошт для карыстальнікаў мабільнай сувяззю. На думку В.Храла, ўладальнікі сотавых тэлефонаў, якіх у Беларусі ўжо болей за мільён, ніяк не маламаёмасныя і лёгка перанясуць новы падатак. А ён, па разліках парламентарыя, даў бы ў бюджэт краіны каля 60 мільёнаў даляраў. У інтэрв'ю БелаПАН Васіль Хрол паведаў, што яго прапанова прадыктавана імкненнем дапамагчы маламаёмасным грамадзянам. «Зараз у краіне з-за адсутнасці сродкаў скарачаюцца льготы для ветэранаў, інвалідаў і пенсіянераў. Я ж прапаную не скарачаць ільготы, а шукаць дадатковыя крыніцы для напаўнення бюджэту», – растлумачыў Васіль Хрол.

Вельмі высакародныя памкненні, толькі чамусьці дадатковай крыніцай заўжды аказваецца чужая кішэнь.

# Нямцоў любіць рызыку

У мінулую суботу лідэр думскай фракцыі Саюза правых сілаў Расійскай Федэрацыі Барыс Нямцоў нелегальна прыбыў у Мінск, скарыстаўшы лепшыя метады канспірацыі. Варта нагадаць, што год таму Нямцоў, які прыляцеў з прыватным візітам у Беларусь, быў выдалены з Мінска рашэннем ўлады. Нямцову забаранілі ўезд у Беларусь тэрмінам на пяць гадоў. Цяперашняй мэтай паездкі лідэра СПС у сталіцу Беларусі стала прэзентацыя кнігі Паўла Шарамета і Святланы Калінкінай «Выпадковы прэзідэнт». Прэзентацыя праходзіла ў канферэнцзалі рэстаране «Журавінка», і з яе не рабілася асаблівай тайны.



Таму прыходзіцца думаць, што ўлады паглядзелі на «патаемны» візіт маскоўскага парламентарыя праз пальцы.

Пасля прэзентацыі, на якой Барыс Нямцоў падпісваў экземпляры кнігі, да аўтарства якой не мае дачынення, ён пакінуў Мінск рэйсавым самалётам. І памахаў нашым «органам» рукой.

«Новы Час»
абвяшчае конкурс сярод чытачоў
«Беларусь у гістарычным працэсе»

*Удзельнікам конкурсу трэба адказаць на наступныя пытанні:*

**1. Якую падзею з беларускай гісторыі Вы лічыце значнай для нашай краіны**
**а) у даўнія часы, б) у навейшыя часы**
**2. Якую з вядомых Вам гістарычных асобаў Вы ўзялі б за ідэал ці параілі б узяць за ідэал вашым дзецям?**
**3. Якую мясціну на Беларусі Вы лічыце святой, вартай усенароднай павагі?**
**4. Ці ёсць у Вас любімы помнік даўніны (замак, палац, парк, возера і г.д.) у нашай краіне, куды хацелася б час ад часу прыязджаць?**
**5. Што, на вашу думку, варта рабіць, каб Беларусь не загінула ва ўмовах глабалізацыі Хто можа гэта рабіць – толькі ўлады ці кожны грамадзянін?**

**Пераможцаў чакаюць прызы: фотаапарат, CD з папулярнай беларускай музыкай, падарункавыя выданні, падпіска на «Новы Час» і інш.**

**Адказы на пытанні дасылайце на наш эл. адрас: nchas@tbm.org.by або паштовы: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13, з паметай – «на конкурс» да 20 снежня 2003 г.**

# Мінск. Гандлёвыя рады

## Рэстаўрацыя, рэканструкцыя, імітацыя - звычнае беларускае раздарожжа

Аднаўлены гандлёвыя рады – цікавы архітэктурны і гістарычны помнік Верхняга гораду! Ці так на самой справе? Пытанне, што гэта: рэстаўрацыя ці навабуд, імітаванне гістарычнага помніку – даўно перарасло ў палкія дэбаты паміж гісторыкамі, археолагамі і адміністрацыяй ААТ «Стары Менск», які праводзіць «рэстаўрацыю» Верхняга горада..

Упершыню гандлёвыя рады згадваюцца ў 1817 годзе ў так званых «Візітах» – у вопісе маёмасці мінскага кляштара бернардзінак. Пабудаваныя паводле праекту Міхала Чахоўскага ў стылі класіцызму, яны ўдала дапоўнілі барочны ансамбль кляштару, што быў заснаваны ў 1624 годзе. «Віленчукі»(так меналаліся гандлёвыя рады сярод гараджан) з'яўляліся часткай кляштарнага ансамбля. А паміж касцёлам і гандлёвымі радамі знаходзіліся могілкі XVII–XVIII стагоддзяў, дзе былі пахаваныя манахі і прадстаўнікі вядомых родаў Міншчыны: Завішаў, Тышкевічаў, Хмараў і інш.

У час будаўніцтва гандлёвых радоў былі вымураваныя велізарныя падземныя памяшканні для захавання тавару. Яны «пераэжылі» Другую сусветную вайну. Захаваліся і пасля разбурэння большай часткі «Віленчукоў» напрыканцы 1940-х гадоў. Нават не трапілі пад хвалю гвалтоўнага знішчэння Нямігі ў 1976–1978 гадах. А ў 1988 годзе, паводле пастановы СМ БССР, комплекс бернардзінскага кляштару, манастырскія могілкі і гандлёвыя рады атрымалі статус помніка архітэктуры і археалогіі рэспубліканскага значэння.

Але зараз гандлёвыя рады знішчаны разам з манастырскімі могілкамі. ААТ «Стары Менск», пры падтрымцы Камітэта (зараз Дэпартамента) па ахове гістарычна-культурнай спадчыны і камітэта архітэктуры Мінгарвыканкама, у 1998 годзе спрабавала распачаць «рэстаўрацыйна-разбуральную» працу. Але дзеянні гэтага таварыства былі спынены афіцыйным папярэджаннем пракуратуры, аднак не на доўга. Інстытутам гісторыі НАН Беларусі нават быў накіраваны ў Міністэрства культуры і Мінгарвыканкам ліст, у якім паведамлялiся ўсе неабходныя ўмовы для падрыхтоўкі будаўнічых работ па аднаўленні старой часткі гандлёвых радоў. Але там гэты ліст не заўважылі. Былі знішчаны аўтэнтычныя канструкцыі падземных памяшканняў «Віленчукоў», захаваныя фрагменты мураванай агароджы кляштару. Не спынілі будаўнікоў і могілкі – косткі, чарапы некуды вывезены, магчыма, на сметнік.

Гэтыя дзеянні Дэпартамент па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі спрабаваў спыніць прадпісаннем № 8 ад 20 сакавіка 2002 года, накіраваным ААТ «Стары Менск». Ім забараняліся ўсе віды працы ў сувязі з недаследаваннем культурнага пласта «Верхняга горада» і з самавольным збудаваннем туалета на падмурках Свята-Духаўскай царквы. Быў складзены пратакол пашкоджання гісторыка-культурнай каштоўнасці «Верхні горад», залічанага ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь пад шыфрам Е400463. Падпісанты канстатавалі:

*«...масавае выкопванне чалавечых касцей, чарапоў пры рабоце экскаватара на недаследаваным культурным пласце гісторыка-культурнай каштоўнасці «Верхні горад гістарычнага цэнтра г. Мінска»на тэрыторыі, якая прылягае да будынка гандлёвых радоў па вуліцы Герцэна №1 у Мінску.*

*Гэты факт знішчэння культурнага пласта XVI-XIX стст. без навуковага даследавання з'яўляецца наўмысным невыкананнем прадпісання № 8 ад 20.03.2002 года ААТ «Стары Менск» Дэпартамента па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі аб забароне земляных работ, парушэннем Закона РБ «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны».*

Але ўсе гэта было крыкам да глухіх. Бо спыняць разбуральныя работы ніхто не збіраўся. Неўзабаве быў складзены «Акт знішчэння гісторыка-культурнай каштоўнасці помніка археалогіі і архітэктуры XVII–XIX стст. «Гандлёвыя рады» па вуліцы Герцэна, 1 у Мінску». У ім канстатавалася, што земляныя работы, якія там праводзіліся да 21 сакавіка 2002 г., вяліся без навуковага археалагічнага нагляду, у выніку чаго фрагменты недаследаванага культурнага пласта, рэшткі мураванай агароджы XVII ст., аўтэнтычныя муры будынка гандлёвых радоў былі знішчаны на 90%. Удакладнялася, што пры архітэктурна-археалагічных даследваннях было высветлена: на дадзеным участку захоўваўся культурны пласт XII–XVIII ст. Колькі ж стагоддзяў мы страцілі, пад час гэтай будоўлі! І высновa: *«Умовы, якія павінны былі забяспечыць належнае вывучэнне і захаванне помніка, выкладзеныя ў лісце № 105-2/396 ад 03.09.1999 г. Інстытута гісторыі НАН Беларусі, накіраваным у Міністэрства культуры РБ і ў Мінгарвыканкам, не былі выкананы...»*

Вось і ўся рэканструкцыя, вось любоў і павага да гісторыі радзімы. Паспрабуйце хаць бы знешне параўнаць здымкі «Віленчукоў» – архіўны і сучасны. Не вытрыманы нават элементарныя прапорцыі. Што ўжо казаць пра ўнутраныя памяшканні, калі за кошт могілак павялічана плошча будучага піўнога рэстарана!

Узнікла шмат пытанняў, на якія пагадзіўся адказаць Ігар Чарняўскі, намеснік кіраўніка Дэпартамента па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры.

**– Раскажыце калі ласка, хто займаўся распрацоўкай праекту?**

–Праект распрацоўваўся яшчэ ў перыяд дзейнасці Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, пры Міністэрстве культуры. Адпаведна, дазвол на распрацоўку праектнай дакументацыі, яе праходжэнне і ўзгадненне архітэктурнага праекта – гэта ўсё рабіў Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны.

**– Наколькі мне вядома, Інстытут гісторыі не адобрыў праект.**

– А прычым тут Інстытут гісторыі? Функцыя іх павінна была заключацца ў тым, каб забяспечыць археалагічны нагляд пры выкананні работ.

**–Але археалагічныя даследаванні не былі праведзены.**

– Я праглядзеў дакументацыю. Усе ўзгадненні выдаваліся з умовай правядзення археалагічных работ. Калі Інстытут гісторыі не выказаў заўваг, а мы з імі вельмі актыўна працуем, то не ведаю, калі і хто канкрэтна з Інстытута гісторыі, каму выказаў якія заўвагі.

**– А як жа дасланыя ў пракуратуру акты ў 1998 годзе і пасля?**

– Тады трэба звяртацца ў 1998 год і задаваць пытанні тым, каму Інстытут гісторыі дасылаў гэтыя акты, і тым, хто нёс адказнасць.

**– Верхні горад - гістарычная частка Мінска. Асноўныя працы па разбурэнню «Віленчукоў» былі праведзены ў 2002 годзе. Тады знішчылі захаваныя падмуркі.**

– Магу сказаць, што праект распрацаваны і ўзгоднены ва ўстаноўленым парадку, парушэнняў не было. Мне даводзілася працаваць разам з пракуратурай. Разам з супрацоўнікам пракуратуры выходзіў на месца, аглядаў, дзе магчымы парушэнні, што зроблена і як. Што датычыць нібыта знішчэння ацалелай часткі, то яна зараз ёсць. Тое, што захавалася пасля 1949 года. Калі гаварыць аб падмурках, магчыма невялікую частку давялося разабраць, бо іх стан быў настолькі тэхнічна непрыдатны для рэканструкцыі, што не мела сэнсу іх захоўванне. Але ўсё гэта закладзена ў праектнай дакументацыі.

**– На мой погляд, гэты праект не падобны на былы, недакладны.**

– Я не ведаю, якімі дадзенымі і архіўнымі матэрыяламі, якімі распрацоўкамі, якімі комплекснымі навуковымі даследаваннямі, якім раздзелам праектнай дакументацыі вы карысталіся. А хто ведае знешні выгляд гандлёвых радоў, на падставе якіх дакументаў вы гаворыце, што яны не таго знешняга выгляду? Канкрэтна: архіўныя справы, нумар, фонд, старонка. Гандлёвыя рады ўпачатку маглі мець адзін знешні выгляд, у канцы свайго існавання яны мелі абсалютна іншы выгляд. Я сам у руках трымаў фотаздымкі, архіўныя, фондавыя 1949 года. Канешне на іх яны не падобны.

**– Паміж касцёлам і аднаўленымі гандлёвымі радамі, на месцы могілак зрабілі дадатковыя памяшканні і двор «новай рэканструкцыі».**

– Калі гэта закладзена ў праекце, калі праект прайшоў у свой час зацвярджэнне і пачаў рэалізоўвацца, то што сёння магчыма зрабіць. У нас няма машыны часу, каб перанесціся ў 1998 год і нешта памяняць. Я гатовы дыскутаваць на тэму методыкі работ, але маючы на руках дакументы. Паклічам археолага Сяргея Тарасава, яшчэ шэраг людзей, абмяркуем усе пытанні. С.Тарасаў і яго аддзел выконвалі археалагічныя работы, яму было гэта заказана, бо ААТ «Стары Менск», як я цікавіўся, мае дагавор з Інстытутам гісторыі НАН. Іншая справа – наколькі Акадэмія навук добрасумленна выконвае яго.

**– А наколькі ім дазволілі выканаць гэтыя работы?**

– Там праблем не павінна было быць. Калі ім нехта, нешта не дазваляў, то можна было паскардзіцца - існаваў Камітэт па ахове спадчыны, а сёння існуе Дэпартамент. Хай бы ім не дазволілі штосьці рабіць на Нямізе. Я цалкам магу адказваць за гэтыя работы. Як чыноўнік, я не магу дазваляць сабе эмоцыі, я павінен аперавать дакументамі. Я рад быў бы, калі б грамадскасць такія пытанні падымала прафесійна, абгрунтавана, прапаноўвала нейкія варыянты. А калі нехта кажа: «Ай-ай! – руйнуюць Нямігу!», або: «Трэба аднавіць Нямігу». Ці гэта сур'ёзна? Што руйнуюць, калі работы ідуць у дваровай тэрыторыі? Няміга была зруйнавана ў пачатку 1970-х гадоў. Калі што ад яе і засталося, то яно ўсё пад асфальтам. З гандлёвымі радамі не адбылася празмерная катастрофа. Там сапраўды былі парушэнні. Але мы, яшчэ раз падкрэслю, хадзілі з супрацоўнікам пракуратуры, выкрывалі парушэнні і давалі ўказанні ліквідаваць іх.

**– А ўсё ж цікава, на самой справе ці гэта рэканструкцыя, ці імітаванне?**

– Тэма дыскусійная. Як ацэньваць: гэта помнік ці не. Рады можна было зусім не аднаўляць, бо тое, што зніклі гандлёвыя рады на Верхнім горадзе – гістарычны факт. Працэс разбурэння магчыма было проста засведчыць. Як і не аднаўляць Ратушу, як не ставіць пытанне аб аднаўленні Свята-Духаўскай царквы, як і не прыкладаць намаганні па аднаўленні малога гасціннага двара. А адноўленыя гандлёвыя рады выглядаюць як у апошні перыяд свайго існавання, калі яны былі канчаткова сфарміраваны. Што ў гэтым дрэннага? Горад – жывы арганізм і спыніць жыццё ў ім проста немагчыма. Іншая справа – як да гістарычнага асяроддзя адаптаваць сучаснасць.

**– У заказчыка яшчэ не змянілася ідэя зрабіць там рэстаран?**

– Я ўдакладніў бы, што там будзе за рэстаран. У мяне запісана, што гэта аб'-ект грамадскага харчавання. Магчыма, гэта будзе кавярня, магчыма, яшчэ штосьці, але галоўнае, што там будзе такая ўстанова грамадскага харчавання, адкуль не будуць вывальвацца. Дык чаму б не? Калі я быў у Рызе, то заходзіў у кавярню побач з Домскім саборам. Гэта ненармальна?

**– А як успрымаць тое, што там былі могілкі?**

– Там сапраўды былі пахаванні. Але бліжэй да будынка касцёла. Двор гандлёвых радоў меў сваё добрае ўпарадкаванне. Там заўсёды быў гандаль. Гандлявалі газай, вопраткай, харчаваннем. Чамусьці мы не ставім пытанне, што яны былі пабудаваны ў комплексе кляштара бернардзінцаў і адразу прыстасоўваліся пад гандлёвы рад. І гарэлку там прадавалі. А сёння мы раптам пачынаем пра косткі гаварыць. Там гістарычна ўсё гэта было.

**Кася ГРУНІНА**



Раскапаныя падмуркі гандлёвых радоў



Месца раскопу каля былога касцёла бернардзінаў



Тое ж месца з новай забудовай у стылістыцы гандлёвых радоў

# Публічныя бібліятэкі – быць ці не быць?

«Кніга як мова, яе няма тады, калі ёй не карыстаешся», – кажа дырэктар мінскай гарадской бібліятэкі імя Льва Талстога. Бібліятэкі прываблююць тых, хто мае патрэбу ў кнізе і хто любіць чытаць. Глядач у першую чаргу - спажывец, а чытач у першую чаргу – творца: з 33 літарак ён стварае свет. Аб праблемах бібліятэчнай справы ў наш час тэхнізацыі і камп`ютэрызацыі наша гутарка з Надзеяй Карзюк, дырэктарам бібліятэкі.



**– Надзея Дзмітраўна, некаторыя людзі мяркуюць, што бібліятэчная традыцыя паступова адыходзіць у нябыт. Выдаваць кніжкі з часам стане занадта дарага. Танней размясціць новую кнігу ў інтэрнэце альбо выдаць CD-дыск з кніжнай навінкай...**

– Учора была нядзеля, наша бібліятэка ў гэты дзень прыняла каля 260 наведвальнікаў. Калі б вы зайшлі ў залу ды пагледзелі, то заўважылі б, што людзей сталага веку не было амаль ніводнага. Усе моладзь – студэнты ВНУ, тыя, хто мае магчымасць карыстацца інтэрнетам. Але яны палічылі неабходным прыйсці ў бібліятэку, узяць кнігу і працаваць. Так што з гэтым сцверджаннем можна спрачацца. Ёсць у камп`ютэраў плюсы, ёсць і свае мінусы, таксама як і ў бібліятэцы.

**– Якая праблема для бібліятэкі найбольш вострая?**

– Усе кажуць, што кнігі – гэта нацыянальнае багацце. Але ў нас ёсць чытачы, якія лічаць, што ўсё толькі для іх, што гэтая старонка патрэбная толькі ім. Так нішчыцца літаратура. І таму часам нават плачаш па кнігах. Мы набываем кнігі спецыяльна, па замове. Калі чытачам яны патрэбныя, мы шукаем, дакамплектоўваем нашу бібліятэку патрэбнымі выданнямі. І калі яны нішчацца, псуюцца вельмі шкада. Справядліва кажуць, што кошты на кнігі растуць хутчэй, чым мы можам зарабіць гэтыя грошы.

**– Магчыма выйсцем было б зрабіць карыстанне бібліятэкай платным ...**

– Ёсць бібліятэкі, дзе чытачы аплачваюць кошт чытацкага білета, і не болей таго, а само карыстанне бясплатнае. У нас ёсць платныя паслугі – ксеракопія, узяць з чытальнай залі кнігу на дом, на некалькі гадзін, на выхадны альбо на ноч. Гэта каштуе нязначныя грошы. Студэнты нават не наракаюць, бо гэта сапраўды капейкі. Іх задавальняе, што кнігу можна ўзяць, зрабіць без праблем копію. Для нас гэта нейкім чынам зберагае фонд, але грошы дае міззэрныя.

**– Акрамя гэтых сродкаў дзяржава таксама выдаткоўвае грошы на падтрымку бібліятэкі, набыццё новых выданняў?**

– Канешне. Напрыклад, мы самі за платныя паслугі з пачатку года атрымалі недзе 1.000 умоўных адзінак. Але выкарыстаць гэтыя грошы адразу мы не можам. Таму, што ёсць мноства іншых патрэбаў, дзе гэтыя грошы неабходныя. Гэта мэтавыя выдаткі, набыццё ў бібліятэку нейкіх неабходных тавараў. Нашыя грошы не ідуць на павышэнне заробку, а выключна на набыццё літаратуры. Усё астатняе забяспечвае дзяржава.

**– Як адбываецца папаўненне фондаў бібліятэкі?**

– Калі чытач адзін ці два разы запытаў тое, ці іншае выданне, мы заносім гэтую кнігу ў спецыяльную картатэку, і на яе падставе ідзе дакамплектаванне. Існуе агульнагарадская сістэма, якая аб'ядноўвае бібліятэкі для дарослага насельніцтва. Іх усяго 22, і ёсць цэнтралізаваны аддзел камплектавання, які размяркоўвае новыя паступленні. Аддзел дамаўляецца з выдавецтвамі, яны прывозяць свае выданні, прайс-лісты. Пасля супрацоўнікі бібліятэкі, тыя, хто звязаныя з чытачамі, загадчыкі аддзелаў, абанементу, чытальнай залы робяць замовы, грунтуючыся на картатэцы дакамплектавання.

**– Зыходзячы з гэтага вы можаце сказаць, якія кніжкі зараз карыстаюцца большай папулярнасцю, што прыходзіцца набываць, чаго не хапае?**

– Па-першае, недастатковa літаратуры па краязнаўстве. Недаўна адна з бібліятэкарак казала, што яна мае столькі літаратуры пра Маскву, што можа два дні вадзіць там экскурсіі, а пра Беларусь такой літаратуры амаль няма. Таму перш наперш мы дакамплектоўваемся па краязнаўстве. Затым па запытах чытачоў – эканоміка, дзяржава і права, педагогіка, псіхалогія, мастацтва.

**– А беларуская мастацкая літаратура сучасная і класічная?**

– Яна карыстаецца вялікай папулярнасцю. Але такой літаратурай вельмі цяжка праводзіць дакамплектаванне, бо не ведаеш, што на другі год увойдзе ў вучэбную праграму – праграма мяняецца. Хоць мы і не школьная бібліятэка, але абслугоўваем вучняў з 8 класа. Школьныя бібліятэкі не ў стане забяспечыць усіх сваіх навучэнцаў гэтай літаратурай. Тым не менш, мы гарадская публічная бібліятэка, і ў нас у фондзе павінна быць усё.

Наша бібліятэка багатая на розныя выданні. У чытальнай зале ў асноўным лепшыя творы мастацкай сусветнай літаратуры, архітэктура, жывапіс, матэматыка, фізіка, хімія, педагогіка, псіхалогія, дапаможнікі, праграма ВНУ, энцыклапедыі, даведнікі і асабліва каштоўныя выданні. На абанеменце больш мастацкай літаратуры, але пажадана, каб і там было больш галіновай літаратуры па матэматыцы, фізіцы, хіміі. Гэтых выданняў вельмі мала, а запыт вялікі. Па гісторыі Беларусі зараз наогул невядома па чым рыхтавацца.

**– Вядома, што бібліятэка імя Льва Талстога адна з старэйшых у Мінску, у 2001 годзе яна адзначыла сваё 90-годдзе. Ці маеце вы ў фондзе кнігі з першымі нумарамі?**

– Калі памёр Леў Талстой, у Мінску была распачата кампанія па ўшанаванні яго памяці. Ініцыятыўная група звярнулася да губернатара з прапановай адкрыць бібліятэку-чытальню імя Льва Талстога. І напрыканцы 1911 бібліятэка была адкрыта. На адкрыццё была запрошаная Соф'я Талстая – жонка пісьменніка. Яна прывезла з сабой каля 70 кніг. На жаль, нічога з гэтай перададзенай калекцыі не засталося. Усё згарэла ў полымі вайны, і фонд, які мы зараз маем, складзены цалкам пасляваенны.

У той час для бібліятэкі была знята трохпакаёўка на вуліцы Новамаскоўскай, гэта ў раёне вакзала. Дакументы не захавалі, дзе бібліятэка знаходзілася ў 20-я гады, вядома толькі, што ў памяшканні нейкай старой царквы. Потым на вул. Абутковай, затым пераехала на Малочны завулак, пасля ў 1-ю школу на вул.Чкалава. І нарэшце пасялілася тут – на вуліцы Маскоўскай. Напачатку мы займалі толькі палову сённяшняй плошчы, з намі суседнічала цырульня. А цяпер у нас каля 480 квадратных метраў плошчы.

**– У нас даўно было заведзена, што бібліятэкі апроч асноўнай працы з чытачом ладзяць розныя мерапрыемствы, хоць нейкім чынам звязаныя з кніжнай культурай. Ці захавалася гэтая завядзёнка і якія культурныя імпрэзы маюць цікавасць сярод чытачоў?**

– Сапраўды, бібліятэка – гэта яшчэ і рэклама, ці можна сказаць, прапаганда кнігі. Мы ладзім сустрэчы з выдаўцамі. У нас, напрыклад, вельмі добрыя стасункі з выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя». Сябруем з мастакамі, якія афармляюць кнігі, – у нас выступалі Віктар Сташчанюк, Павал Татарнікаў, графік Арлен Кашкурэвіч, зараз у нас дзейнічае выстава мастака Аляксея Марачкіна. Мы для сябе вырашылі гэтак: кніга - гэта вельмі добра, але калі яе раскрываць рознымі дасціпнымі сродкамі, праз мастацтва, сустрэчы з аўтарам, то гэтае сугучча розных людзей, розных падыходаў да кнігі будзе больш цікавым. Таму ў нас на базе бібліятэкі працуе мастацкая галерэя. Выстава мяняецца раз у 1,5 месяца. Заўсёды ладзяцца аўтарскія прэзэнтацыі. Напрыклад, апошняя літаратурная сустрэча ў нашых сценах была прысвечана творчасці Соф'і Шыбека. Адбылася прэзэнтацыя яе кнігі «Я соткана из родников». Мы сябруем з Захарам Шыбекам, вядомым гісторыкам, даследчыкам мінскай даўніны. На нядаўняй прэзэнтацыі кніг Анатоля Бутэвіча прысутнічала больш за сто чалавек. Разам з прэзэнтацыяй адкрылася цудоўная выстава твораў маладога беларускага мастака Паўла Татарнікава, які афармляў гэтыя кнігі. Таксама было некалькі сустрэч з Уладзімірам Арловым, прыйшло шмат людзей, гучалі зацікаўленыя пытанні да пісьменніка. Было бачна, што людзі добра знаёмыя з яго творчасцю.

**– Я ведаю, што ў вас ёсць такая своеасаблівая пераемнасць сярод чытачоў, калі яны прыводзяць сваіх дзяцей, а потым тыя сваіх. Такім чынам наведваць вашую бібліятэку становіцца сямейнай традыцыяй на працягу некалькіх пакаленняў.**

– Сапраўды так. Асабліва гэта відаць па хатнім абанеменце. Такія пастаянныя чытачы дораць бібліятэцы шмат кніжак са свайго хатняга кнігазбору. Я здзіўляюся, бо яны прыносяць у падарунак вельмі каштоўныя выданні. І маючы такія кнігі, яны ўсё роўна прыходзяць да нас і знаходзяць цікавыя ім кнігі. Мы ніколі не атрымліваем і напэўна не атрымаем такіх выданняў, а нашы чытачы нам іх дораць, і прыводзяць сваіх дзяцей.

Калі мне кажуць, што кніга і бібліятэка гэта тое, што адыходзіць у нябыт, я не магу з гэтым пагадзіцца. Бібліятэка ніколі не адыдзе, таму што непасрэдная праца з кнігай, датыкненне да паперы, калі перагортваеш старонкі, – гэта незабыўная асалода. Гэтае адчуванне ні на што не зменіш, ні на які камп`ютэр.

Хацелася б пажадаць усім нашым бібліятэкам, каб яны абнаўлялі свой фонд так, як гэта робіцца ў замежжы, дзе раз у пяць год фонды поўнасцю абнаўляюцца.

**– Спадарыня Надзея, а як вы захапіліся бібліятэчнай справай?**

– У Мінск я прыехала з Навагрудка, скончыла БДУ, гістарычны факультэт. Адразу працавала ў школе, а затым прыйшла ў бібліятэку, і мне падалося, што праца настаўніка і бібліятэкара сугучныя, дапаўняюць адна адну. У бібліятэцы імя Льва Талстога я працую з 1978 года. Мне вельмі падабаецца працаваць проста бібліятэкарам, калі ёсць магчымасць дапамагаць чытачам.

**– Не інакш як абыякавыя да кнігі людзі нарадзілі стэрэатып: бібліятэкар - чалавек учорашняга дня, несучасны. Што вы можаце на гэта адказаць? Які вобраз сучаснага бібліятэкара, на вашу думку?**

– Сучасныя супрацоўнікі бібліятэкі – гэта моладзь, тыя, хто валодае тэхнікай, новымі тэхналогіямі, хто мае новы погляд на літаратуру, на чытача, на патрабаванні. Новыя тэхналогіі, кампутар, тэхніка – сучасная бібліятэчная справа патрабуе шмат ад бібліятэкара. А каб такія кадры былі і заставаліся, трэба іх падтрымліваць матэрыяльна.

Ёсць такі выраз: «дзеці – нашая будучыня, а старыя – гэта твар нашай будучыні». Дык вось калі пагледзець на хатні абанемент, то да нас прыходзяць людзі пераважна сталага ўзросту. Чалавек прыходзіць да нас часам проста паразмаўляць, і бібліятэкар для яго – гэта той, хто выслухае, зразумее, параіць, што пачытаць. І ўрэшце чытач выходзіць задаволены, ён адпачыў. Гэта найвышэйшае задавальненне для бібліятэкара.

Сёння, напрыклад, у нас было 170 наведвальнікаў, выдана каля 700 экзэмпляраў кніг. Для бібліятэкара шчасце выдаць кніжку, задаволіць запыт. Бібліятэкар – камунікабельны чалавек. Рэдка хто пакідае бібліятэку да пенсіі, у асноўным людзі імкнуцца працаваць усё жыццё. Але будучыня ў руках моладзі. Паглядзіце на Еўропу, дзе амаль кожная сям'я мае камп`ютэр, а бібліятэкі ўсё роўна працуюць. Значыць, ёсць неабходнасць, якая, спадзяюся, ніколі не адыдзе.

**Словы чытачоў**

***Андрэй, студэнт юрыдычнага факультэта БДУ:***

– Часам бывае, што ўсяму курсу патрэбная адна і тая ж кніга. Тады ўсе ледзь не наперагонкі бягуць сюды, у бібліятэку. Хто першы – той і чытае. Канешне, можна і на камп`ютэры, і ў інтэрнэце пашукаць, але неяк больш зручна прыйсці і гарантавана атрымаць тое, што табе трэба. Часам некаторыя нават з дзяўчынамі знаёмяцца. Сядаюць побач, асабліва калі ў яе кніжка, якая і табе патрэбная...

***Нікалаенка Людміла Аляксандраўна, метадыст кафедры РІВШ БДУ:***

– Я карыстаюся і камп`ютэрамі, але люблю і часта прыходжу ў бібліятэку. Камп`ютэр – гэта адно. Для мяне там інфармацыя апрацаваная кімсьці, а ў бібліятэцы я сама гаспадар, выбіраю, што мне падабаецца. Адно другога не замяняе. Ніякага канфлікту я тут не бачу. Бібліятэка – гэта нашае агульнае багацце, а камп`ютэры ёсць не ва ўсіх. Мае дзеці на камп`ютэры хутчэй пагуляюць у нейкую гульню, а чытаць кнігі ідуць у бібліятэку, дзе ёсць уся школьная праграма. Усё ж у інтэрнет не могуць змясціць, і пошук па інтэрнэту – гэта складана, не кожны з гэтым справіцца, не ўсе да яго далучаныя. Ды і грошай гэта каштуе, лепш пайсці ў бібліятэку, дзе можна ўзяць кніжку. Да таго ж нагрузка на вочы не такая вялікая.

Я сама ў гэтую бібліятэку хаджу з 1966 года. Мая дачка вучыцца на журфаку на другім курсе. Яна таксама сюды ходзіць, бярэ кнігі.

***Ганна Іванаўна, пенсіянерка:***

– Я бяру кнігі дадому. Часам перачытваю, што некалі чытала ў маладосці, асабліва люблю беларускіх аўтараў – Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава. Таксама цікаўлюся і новымі кнігамі. Мяне ўсе бібліятэкары тут ведаюць, і я іх таксама. Мы сустракаемся як сябры. Для мяне прыйсці ў бібліятэку – сапраўдная падзея.

Ядвіга МАЦКЕВІЧ



# Зачараваны Радзімай

## Выстава твораў Алеся Цыркунова ў сядзібе БНФ

Алесь Цыркуноў – нацыянальна -сведамы мастак, які сваімі творамі імкне пашырыць грамадскую свядомасць, адлюстроўваючы рознымі жывапіснымі сродкамі старажытныя пласты беларускай гісторыі і культуры, у тым ліку шляхецкай і сялянскай.

Пэўны ўплыў на фарміраванне яго мастакоўскае асобы зазначылі захапленні эксперыментальнымі пошукамі беларускіх мастакоў 1920–30-х гадоў і «суровым стылем» мастакоў 1970-х.

Ягоным творам уласціва новая рэчаіснасць, суладная з ягоным своеасаблівым светаўспрыманнем, у іх грамадскі ідэал раскрываецца праз шматсэнсоўную трактоўку адлюстраваных тэм, праз пластычную абагульненасць форм і ілюстратыўны сімвалізм. Часам ён скарыстоўвае кантрасты рэальнабачнага і нябачнага, але ўяўнага, нацыянальны фальклёр і традыцыйную творчасць. Інтуітыўнае ірацыянальнае - бадай галоўныя складнікі творчага пошуку ягонага жывапісу, характэрнай асаблівасцю для якога з’яўляецца музычнае суладдзе фарбаў, экспрэсіўная рытмізаванасць жывапісна-пластычных формаў, агульны драматычна-напружаны ці то лагодна-прасвятлёны каларыт.

Усе думкі, пачуцці, роспач, надзеі і мары, якія сыходзяць з яго твораў, сведчаць аб глыбокай занепакоенасці і шчырым клопаце за наш супярэчлівы час, за будучыню свайго народа і роднага краю, за лёс Вольнай і Незалежнай Беларусі.

**Мая ЯНІЦКАЯ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**



Прысвячэньне Міколу Ермаловічу

У краі забраным





Хата Зоські Верас

Мядзельскі замак на востраве Мястра





Вішнева. Сьветач веры і велічы



Паэт-патрыёт Сяргей Новік-Пяюн

Партрэт Аўгена Кабовіча



# Бізнес у саюзе з мастацтвам

**Крэдыторам буйнога выдавецкага праекта - альбома «Тры вякі рускага жывапісу» – стаўся вядомы ў Пецярбургу бізнесовец, беларус Вячаслаў Заранкоў.**

Праект зладжаны да 300-годдзя горада на Няве. Днямі ў выставачным комплексе «Ленэкспа» адбылася прэзентацыя 2-тысячнага англамоўнага накладу альбома. Сярод 440 ілюстрацый – працы пахаджанаў з Беларусі С.Заранкі і М.Шагала, К.Малевіча, маларэпрадукаванае і не надта вядомае палатно А.Ласенкі «Уладзімір ды Рагнеда».

Пра неардынарнасць асобы В.Заранкова, прафесара і доктара навук, які стала жыве ў Піцеры і ачольвае адну з найбуйнейшых будаўнічых кампаній Расеі, сведчыць таксама ягоная карціна «Радзіма», змешчаная ў анталогіі. На ёй родная хата, што на Аршаншчыне, ды ваколічны краявід.

Падчас прэсавай канферэнцыі, на якой прысутнічалі журналісты дваццаці трох выданняў, радыё і тэлебачання, адзін з мастакоў, аўтараў праекта, назваў альбом «другім залпам Аўроры», маючы на ўвазе рэдкі ўзор паўнапраўнага супрацоўніцтва бізнеса і культуры.

Адказваючы на пытанні, піцерскі беларус падкрэсліў, што ён і ягоная карпарацыя вельмі старанна і выбарна ставяцца да прапановаў. «Нас можа зацікавіць якая хочаш ідэя, калі яна разумная і прыгожая і нясе людзям дабро, – удакладніў В.Заранкоў. – Калі гэта будзе новая гарэлка ці від тытуню, я не падтрымаю такі праект».

Выданне альбома «Тры вякі рускага жывапісу», на думку стваральнікаў, мае цалкам акупіць крэдытаваныя сродкі, тым самым пацвердзіць і камерцыйны статус праекта. У Маскве і Санкт-Пецярбургу англамоўны том будзе каштаваць 50–60 еўра. Попыт на першае, рускамоўнае выданне альбома накладам 5 тысяч асобнікаў паказаў, што праз год-два выданне ўжо стане рэдкім.

# Спажывецкі кошык: Не надарвешся

У наша жыццё стала ўвайшлі не надта ўзнёслыя тэрміны - пражытачны мінімум, бюджэт пражытачнага мінімуму, мінімальны заробак, базавая велічыня. Што яны абазначаюць і як уздзейнічаюць на наша паўсядзённае жыццё?



Фота У. Шлапак

**Пражытачны мінімум**

Гэта мінімальны набор матэрыяльных выгод і паслуг, неабходны для сціплага жыцця чалавека і захавання здароўя. У яго ўваходзяць: ежа, адзенне, бялізна, абутак, рэчы агульнасямейнага карыстання, лекі, сродкі гігіены, жыллёва-камунальныя, транспартныя і бытавыя паслугі, паслугі дзіцячых дашкольных устаноў.

Мінімальныя наборы прадуктаў харчавання для асноўных сацыяльна-дэмаграфічных груп насельніцтва распрацаваны Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтрам па экспертнай ацэнцы якасці і бяспекі прадуктаў харчавання Міністэрства аховы здароўя. Мінімальны набор адлюстроўвае сацыяльна-эканамічныя ўмовы і традыцыі насельніцтва адносна ўжывання ежы, калі яны супадаюць з патрабаваннямі рацыянальнага харчавання.

Неабходнасць у нехарчовых таварах вызначана з улікам тэрміну іх зношвання. Вызначаны таксама неабходны набор камунальных, бытавых паслуг і паслуг сувязі.

Кожнаму з нас трэба ведаць памер бюджэту пражытачнага мінімуму, бо гэтыя лічбы маюць прыкладное значэнне. Цяпер бюджэт пражытачнага мінімуму ўстаноўлены ў коштах верасня і складае 108.790 рублёў у сярэднім на душу насельніцтва.

Вызначаны ён і для асноўных дэмаграфічных груп насельніцтва. Згодна з навуковымі распрацоўкамі, пенсіянеру на год патрэбна:

**3,83 кг макаронных вырабаў, 7,3 кг круп, бульбы 89,3 кг, капусты - 27,3 кг, агуркоў толькі 2,5 кг, алею -5,9 літра, масла сметанковага - 1,2 кг, бязтлустага малака - 42,8 літра, смятаны -1,3 кг, тварагу - 8,3 кг, яек – 111 штук, каўбасы і вяндліны - 1 кг, ялавічыны - 11,4 кг, свініны нятлустай - 2,7 кг, птушкі – 16,2 кг, садавіны - 20 кг.**

Хоць гэта і не поўны спіс прадуктаў, але зразумела, што пенсіянеры сядзяць на вымушанай дыеце.

Яшчэ больш цікава даведацца, колькі ж, на думку вучоных мужоў, патрэбна адзення хлопчыку ва ўзросце да 13 год.

**Яму рэкамендавана па адной дэмісезоннай і зімовай куртцы на тры гады. Такі ж тэрмін устаноўлены для зімовых і дэмісезонных ботаў і джэмпера. Крыху лягчэй са штанамі і джынсамі: па адных на 2 гады. Кашуль дзве штукі на 2 гады. А з красоўкамі пашанцавала - пара на год.**

Дзе толькі гэтыя распрацоўшчыкі бачылі дзяцей да 13 год, каб яны так марудна раслі. У народзе кажуць, што ў такім узросце на дзецях «усё гарыць».

Лічбавы паказчык бюджэту пражытачнага мінімуму выкарыстоўваецца як сацыяльны норматыў для аказання дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогі грамадзянам, якія па аб'ектыўных прычынах маюць даход не болей за 60% бюджэта пражытачнага мінімуму. Такім чынам, **калі ў чалавека памер пенсіі менш за 65.274 рублі, ён мае права на адрасную сацыяльную дапамогу**.

Для гэтага трэба напісаць заяву на імя загадчыка ўпраўлення сацыяльнай абароны раённай адміністрацыі, да яе прыкласці даведку аб даходах за тры апошнія месяцы, даведку аб складзе сям'і. У кожнай сітуацыі пералік даведак розны. Напрыклад, могуць запатрабаваць даведку аб аліментах ці паказаць кніжку, па якой атрымліваюць бясплатныя лекі. Памер дапамогі таксама вызначаецца індывідуальна для кожнага заяўляльніка камісіяй раённай адміністрацыі. Але галоўная ўмова для атрымання дапамогі – гэта прычыны беднасці. Калі чалавек страціў працу і шукае іншую, то яму дапамогуць. А калі некалькі год б'е лынды, то і няма чаго звяртацца за дапамогай.

Дзяржаўная дапамога сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, шмат іншых сацыяльных выплат таксама налічваюцца, зыходзячы з сумы бюджэту пражытачнага мінімуму.

Бюджэт пражытачнага мінімуму зацвярджаецца ўрадам краіны кожны квартал у коштах апошняга месяца папярэдняга квартала.

**Бюджэт пражытачнага мінімуму па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах у коштах верасня 2003 года:**
**Для працаздольнага насельніцтва - 116.425**
**Для пенсіянераў - 93.760**
**Для студэнтаў - 113.085**
**Для дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16 год - 212.270**
**Для дзяцей ва ўзросце да 3 год - 95.520**

**Мінімальны спажывецкі бюджэт**

Гэты сацыяльны норматыў складаецца з расходаў на набыццё спажывецкіх тавараў і паслуг для задавальнення асноўных фізіялагічных і сацыяльна-культурных запатрабаванняў чалавека. Мінімальныя спажывецкія бюджэты разлічваюцца для розных сацыяльна-дэмаграфічных груп насельніцтва ў сярэднім на душу насельніцтва і на аднаго члена сям'і рознага складу.

Мінімальны спажывецкі бюджэт фарміруецца на аснове сістэмы спажывецкага кошыка. У гэты віртуальны «кошык» кладзецца больш прадуктаў, тавараў і паслуг, чым патрэбна для пражытачнага мінімуму. Прынамсі, у «кошыку» знайшлося месца для выдаткаў на адпачынак і культурна-асветніцкія мерапрыемствы.

На падставе мінімальнага спажывецкага бюджэту распрацоўваюцца сацыяльныя праграмы дапамогі насельніцтву і меры павелічэння сацыяльнай абароны насельніцтва. У прыватнасці, права на атрыманне бясплатнага харчавання дзецям першых двух год жыцця, права на атрыманне ільготных крэдытаў на рэканструкцыю і будаўніцтва жылля.

Мінімальныя спажывецкія бюджэты зацвярджаюцца пастановай Міністэрства працы і сацыяльнай абароны.

У дадзены момант **сярэднедушавы мінімальны спажывецкі бюджэт сям'і з 4 чалавек, зацверджаны у коштах верасня, складае 174.810 рублёў**.

**Мінімальны заробак**

У мінулым годзе ў нашай краіне быў прыняты Закон «Аб устанаўленні і парадку павышэння памеру мінімальнага заробку». З таго часу мінімальны заробак выкарыстоўваецца толькі ў сферы працоўных адносін. Ён з'яўляецца абавязковым для наймальніка ў якасці ніжэйшай мяжы аплаты працы пры ўмове, што работнік выканаў свае абавязкі ў поўнай меры. Памер мінімальнага заробку ўстанаўліваецца штогод з 1 студзеня і на працягу года індэксуецца. У кастрычніку мінімальны заробак складаў 43.150 рублёў.

**Базавая велічыня**

З мінулага года ў нашым ужытку з'явіўся тэрмін базавая велічыня (БВ). З 1 верасня **БВ складае 16.500 рублёў**. Яна выкарыстоўваецца для налічэння некаторых сацыяльных выплат, падаткаў, пошлін, штрафаў і інш.

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

## Моладзёвыя акцыі

### Хуткасны маршрут: Кастрычніцкая плошча – Акрэсціна

**Панядзелак, 24 лістапада, для некаторых сяброў незарэгістраванага руху «Малады Фронт» надоўга застанецца памятным. Асабліва для тых, што не толькі маральна, але і матэрыяльна пацярпелі, адстойваючы свае перакананні.**

Акцыю пратэсту на ўзгаданы панядзелак «МФ» прымеркаваў да дзвюх падзей: 7-й гадавіны апошняга, другога, рэферэндуму і да маючага некалі адбыцца трэцяга. Паводле меркавання лідэраў руху, праз трэці рэферэндум улада мае намер усталяваць таталітарную сістэму. А таму хто, як не моладзь, павінен рупіцца пра сваю будучыню.Напярэдадні акцыі яе падтрымалі дваццаць вядомых дзеячаў Беларусі. Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Станіслаў Шушкевіч, Анатоль Лябедзька, Алесь Бяляцкі ды іншыя паставілі свае подпісы ў Адкрытым лісце.

За два тыдні да гэтай акцыі, на прэзентацыі трыб'юту «NRM», з-за распаўсюд ўлётак былі затрыманы пяцёра актывістаў «МФ». Паводле артыкула 167 Адміністрацыйнага кодэксу (удзел у несанкцыянаваных вулічных акцыях), чацвёра мусяць выплаціць па 330 тысяч рублёў. Артуру Фінкевічу (адзін з заяўшчыкаў акцыі) суд прысудзіў 15 дзён «адсідкі» спачатку за рпаспаўсюд улётак і столькі ж за ўдзел у акцыі ( шарм апошняму пакаранню надае тое, што Артур на акцыі не быў). Цяпер хлопец правядзе за кратамі месяц.

Само мерапрыемства сабрала каля сотні чалавек. Дзесяць яго ўдзельнікаў, у тым ліку і арганізатара Зміцера Дашкевіча затрымала міліцыя. Зміцеру, у параўнанні з Фінкевічам, «пашчасціла» больш: на Акрэсціна ён правядзе толькі 15 сутак. А ўсё з-за таго, што прапанаваны заяўнікам маршрут руху аўтастанцыя «Кульман» – вул. Багдановіча – Парк сяброўства народаў (плошча Бангалор) маладафронтаўцам не спадабаўся. Моладзь рушыла галоўнай вуліцай горада на Кастрычніцкую плошчу і адпаведна патрапіла ў «абдымкі» амона.

Цяпер кожны вечар а 18-й гадзіне, пачынаючы з 2 снежня, каб маральна падтрымаць тых, хто апынуўся на Акрэсціна, сябры «МФ» са свечкамі ў руках становяцца ў ланцуг перад вокнамі ізалятара. Вось як пракаментавалі лідэры «МФ» праведзеную акцыю ў адзін з такіх вечароў:

– Галоўнай мэтай акцыі 24 лістапада было ў чарговы раз паказаць грамадству, што моладзь не прымае сённяшнюю палітыку і не жадае трэцяга рэферэндуму.

**– Але на заяўленую акцыю ўлётак было распаўсюджана больш дзесяці тысяч, а прыйшло ўсяго каля сотні чалавек?**

– На фоне агульнай беларускай апатыі гэтакі лік удзельнікаў зусім не пужае. Падзея выклікала рэзананс у прэсе. Зблізу па тэлебачанні яе паказалі расейцы. За гэта ім вялікі дзякуй. Пра нашу пазіцыю даведаліся – гэта галоўнае.

Асуджаныя «маладафронтаўцы» выйдуць на волю напярэдадні 10 снежня, дня прыняцця ў 1948 годзе Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. У артыкуле 19 гэтага дакумента напісана: «Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае выражэнне іх; гэта права ўключае свабоду бесперашкодна прытрымліваца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі ...»

**Алеся МАТУСЕВІЧ**

## Паліцэйскія меры

### Заціскаюць школьнікаў

Інспектар горада ўНью-Ёрка выдаў распараджэнне, якое забараняе навучэнцам дзяржаўных школ заходзіць у навучальную ўстанову з сотавым тэлефонам. Цяпер ў школе мабільнікі і пэйджэры апынуліся па-за законам, нават калі яны выключаны ці захоўваюцца ў шуфлядцы. «Мы будзем канфісковывваць любыя з гэтых апаратаў», – папярэдзіў гарадскі інспектарат. Бацькам будзе прапанавана забраць аппарат, а калі яны не прыдуць за ім, тэлефон апынецца ў сметніцы.

Выключэнні будуць зроблены толькі для тых вучняў, бацькі якіх прадставяць спецыяльныя заявы з акрэсленнем падставаў ( стан здароўя) з дадаткам неабходных дакументаў. Абыйсці новыя правілы не ўдасцца нікому, бо як мабільнікі, гэтак і пэйджэры лёгка знайсці з дапамогай металадэтэктара.

Гэта апошні з шэрагу забаронаў, накладзеных дэпартаментам адукацыі з мэтай «ачышчэння» дзяржаўнай сістэмы школьнай асветы, якая ахоплівае 1 мільён 200 тысяч вучняў. Але калі папярэднія забароны (на зброю, наркотыкі, часопісы мод, камп'ютэрныя гульні) падтрымліваліся бацькамі, дык апошняе рашэнне інспектарата выклікала абурэнне. «Школьныя ўлады Нью-Ёрка жывуць паза рэальнасцю, – заяўляюць бацькі, - у эпоху тэрактаў і забастовак, мабільны тэлефон становіцца гарантыяй бяспекі і сродкам, які забяспечвае зносіны паміж членамі сям'і». Бальшыня бацькоў падаравала дзецям мабільнікі пасяля тэрактаў 11 верасня.

Алесь ЧОБАТ

# Крэсы - міфы і рэальнасць

**1**

Гэтае імя жыве сто пяцьдзесят гадоў – ад Вінцэнтага Поля і паэмы «Крэсы», надрукаванай у 1854 годзе ў Кракаве. З польскай рамантычнай паэзіі «крэсы» трапілі да геапалітыкі. Спачатку Крэсы – гэта толькі Падолле, потым Валынь і Кіеўшчына альбо ўся Правабярэжная Украіна, а потым - уся Беларусь разам з маленькай Жамойцю. Крэсы – гэта тыя землі Рэчы Паспалітай, якія трапілі пад расійскую акупацыю пад час забораў 1772, 1793 і 1795 гадоў, а паводле рашэнняў Венскага Кангрэса 1815 года былі канчаткова ўзнаня за частку Расійскай імперыі, за дзевяць расійскіх губерняў, аддзеленых мяжой і правам ад Каралеўства Польскага, ці «Кангрэсоўскі», якая мела самую шырокую аўтаномію, былі забраныя палякам яшчэ раз. Крэсы ці Забраны Край?

Пэўны час для вышэй згаданых абшараў другое імя нават дамінавала, а ліцьвіны на Беларусі, ад Кіркора і Сыракомлі, называлі сябе «краёўцамі».

«Краёўцы» ўважалі сябе і свой народ – шляхту – за gente lithuani, natione poloni альбо нацыянальная свядомасць была падвойная: «я, паляк, таму што ліцьвін». Таму ў канцы XIX стагоддзя менавіта «краёўцы» нарадзілі спачатку летувіскі (жамойцкі) і следам малады беларускі нацыяналізм. «Краёўцы» ж пачалі менаваць абшар былога ВКЛ – Litwa a Bialorus – і праз гэта, разам з імем «Літва», жамойтам і Жамойці адышла менавіта ўся тая гістарычная спадчына ВКЛ. Беларусы, такія ж гістарычныя ліцьвіны, не атрымалі нічога – адзін другі хрост і другое імя. Пры гэтым мала не забыліся на сваё «права першародства» ў гісторыі ВКЛ і права на сваю законную частку культурнай і гістарычнай спадчыны.

**Сталіцай Крэсаў альбо Litwy i Bialorusi была Вільня. Правабярэжная Украіна з Крэсаў чым далей, тым болей выпадала – там вырастаў ясны польска-ўкраінскі антаганізм, нават антаганізм шляхецка-казацкі, а ні пра якую «падвойную» нацыянальную свядомасць ніколі не было мовы.**

**2**

З пагромам Студзеньскага паўстання 1863 на працягу наступных сарака гадоў паволі расце і мацнее другі міф Крэсаў. Гэта не проста Забраны Край. Гэта краіна пакуты і мукі. Польскай пакуты. Польскага цярпення. Польскага змагання і – польскага рэваншу ў барацьбе з Расіяй. Польскага вызвалення ажно да межаў 1772 года. Цяпер на Крэсах «быць палякам» немагчыма, каб так ці іншай не браць удзел у нацыянальна-вызваленчай барацьбе.

«Краёўства» альбо «падвойная» нацыянальная свядомасць амаль што саступае месца «чыстаму» польскаму нацыяналізму, больш гарачаму, менавіта, на Літве, а не ў Польшчы – Варшаве, Познані, Кракаве.

Гэта пра яго Юзаф Пілсудскі сказаў: «Польшча, як абваранак; усё, што мае, ёсць на краях, а пустая сярэдзіна». «На краях», гэта значыць – на Крэсах.

**3**

Аднак той жа Пілсудскі дадумваецца да таго, што Польшчу вызваліць з-пад Расіі не чарговае «рамантычнае паўстанне», але сацыяльная рэвалюцыя ў самой Расіі і яе развал! І фармулюе задачу ясна і коратка: распароць імперыю па нацыянальных швах!З чаго лагічна вынікае неабходнасць супрацоўніцтва палякаў з другімі нацыянальнымі рухамі «единой и неделимой России». У тым жа – з летувісамі, беларусамі і ўкраінцамі. Адным словам, палякам на Крэсах, пры ўсім польскім нацыяналізме, неабходныя сацыяльныя саюзнікі з ліку іншых народаў. Да таго часу, пакуль не будзе распоратая імперыя і не паўстане – у межах 1772 года, ясная справа – незалежная Польшча. А ўзнаваць тыя народы (летувісы, беларусы, украінцы) увогуле за народы альбо не ўзнаваць, якія і якім чынам прызнаць за імі правы на іх нацыянальнае існаванне, пра гэта пагаворым з імі сам-насам ужо ў незалежнай Польшчы. У межах 1772 года.

Такім дзіўным чынам ідэі «краёўцаў» пра Літву як агульны дом, таксама іх падвойная свядомасць у тым доме, трансфармуюцца ў «польскі федэралізм» Ю.Пілсудскага. Той «федэралізм» толькі тактычны, калі не падманны, сродак. Але большасці «крэсовых зямянаў» і такі «федэралізм» дзіўны і лішні, бо тых летувісаў, беларусаў і ўкраінцаў яны проста не заўважаюць. Бо на Крэсах маюць быць толькі палякі. Бо тут наша польская зямля. У «панскім двары». А адбяруць dwory, dworki – і нас тут не будзе, і традыцый польскай, і polskosci, і Польшчы.

Так паўстаў трэці міф Крэсаў. Тут была і будзе Польшча, а ніякіх «непалякаў» тут няма.

**4**

У перапрус 1914–21 гадоў, калі паўстала ўрэшце незалежная Польшча, разам з ёй паўстаў таксама чацвёрты міф Крэсаў як польскага фронту на Усходзе, які мае бараніць усю еўрапейскую цывілізацыю ад бальшавіцкіх варвараў.

Адпаведна з тым міфам Крэсы мелі быць не проста польскія, але толькі і звышпольскія. «Федэралізм Пілсудскага» рэальна праявіўся толькі ў Віленскай адозве Начальніка Дзяржавы ў красавіку 1919 года і дзвюх яго прамовах па-беларуску ў Мінску (увосень таго ж года: «будзеце роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі і самі вырашыце, якою ваша дзяржава будзе, а пакуль я камандую польскай арміяй, то я гарантую вам свабоду і дэмакратыю...»). На справе ж адміністрацыя на Крэсах складалася выключна з «крэсавых зямянаў» – і на Беларусі імгненна нібы ажылі ўзаемаадносіны канца XVIII стагоддзя. Паводзіны ж надышоўшай з-пад Віслы польскай арміі афіцэр II Аддзела ў канцы 1919 года характарызаваў так: «Пачатковы энтузіязм насельніцтва знік, змяніўся непрыязню, а потым перарос у нянавісць і варожнасць да ўсяго польскага...».

Пасля «цуда над Віслай» і пасля дасягнення спынення агню на фронце Ю.Пілсудскі з дапамогай некалькіх генералаў – Жалігоўскі, Булак-Балаховіч; на ўкраінскім фронце Цюцюнік - ажыццявіць свае федэральныя ідэі збройнай сілай: мела паўстаць ў складзе федэратыўнай Польшчы аўтаномная Літва з трох кантонаў – летувіскага ў Коўна, польскага ў Вільні і беларускага ў Мінску, – а ўсходняя мяжа федэратыўнай Польшчы мела быць на Бярэзіне–Дняпроўскай. План быў рэалізаваны толькі часткова і часова: у выніку «мяцяжу Жалігоўскага» ўвосень 1920 года паўстала «Сярэдняя Літва» ў Вільні, ператвораная плебісцытам 1923 года ў Віленскае ваяводства Польшчы.

На гэтым на федэралізме быў пастаўлены крыж.

**5**

Пяты міф Крэсаў паўстаў пасля Рыжскага Тракта 18 сакавіка 1821 года ... па абодвух баках новай савецка-польскай мяжы.

У Польшчы гэта былі як быццам нейкія Ziemie Odzyskane, той безнадзейна прапашчы ў сэнсе гаспадаркі кавалак яе, які быў нутраной калоніяй, а сваім сонным жыццём, усёй штодзённай архаікай і неверагодна стракатай нацыянальна-рэлігійнай мешанінай нагадваў пра былую Рэч Паспалітую, Імперыю Сярэднявечча на Усходзе Еўропы. Сюды, як у жывое мінулае, выпраўляліся пад Курган Міцкевіча харцэры з усёй краіны пад даглядам нацыянальна заклапочаных і службова абавязаных настаўнікаў.

І ў савецкім Мінску, дзе польскія ваяводствы Беластоцкае, Віленскае, Навагрудскае і Палескае афіцыйна менавалі Заходняя Беларусь, у літаратуры і публіцыстыцы дамінавалі, аднак, «крэсы» – менавіта так: у двукоссі ды з малой літаркі. Гэта азначала ... нутраную калонію Польшчы, спрадвечныя беларускія землі, акупаваныя палякамі, альбо Забраны Край!

З чаго лагічна вынікала ідэя непаяднання савецкай і польскай частак Беларусі ў адну незалежную дзяржаву, але ідэя вызвалення акупаваных «крэсаў» Савецкім Саюзам і далучэння іх да Беларускай ССР. І гэтая ідэя была не толькі стрыжнем патрыятычнага школьнага выхавання ў савецкім духу, але ... адным з апошніх прытулкаў разбітага ўшчэнт беларускага нацыяналізму. З гэтай прычыны была такая ідэя папулярнай і на саміх Крэсах, сярод падсанацыйнай «беларускай меншасці» – менавіта так, у двукоссі – бо тая «меншасць» была насамрэч пераважаючай колькаснай большасцю.

**6**

«Потым была вайна. Аграмадная...». Потым усё было – і так было, што не дай, Божа, нікому! Былі бамбардзіроўкі Люфтваффэ Гродна і Баранавіч у першы дзень вайны. Было поўна беларусаў у польскай марской пяхоце на Калідоры, якая зажала вермахт ... назад у Фатэрланд. Было 17 верасня 1939 года – і чырвоныя сцягі па вёсках, і хлеб-соль на ручніках, і снапкі восеньскіх кветак ляцелі на савецкія танкі ... Былі польскія гімназісты ў Гродне, якія палілі тыя танкі, і якіх саветы дабівалі штыхамі на вузкіх вулічках пад каштанамі – і было польскае войска, якое ў той самы час ехала сабе чыгункай з таварнай станцыі, пакуль тыя гімназісты яго osloniali... Былі пагромы польскіх фальваркаў навакольнай вясковай сволаччу, забойствы і гвалты – і то пагалоўна ў палацы ... далей на захад на 50 км ад савецка-польскай мяжы! Бо такі быў тэмп наступлення Чырвонай Арміі, бо там, дзе хадзілі ўжо камісары і патрулі, гранілы ціха сядзелі па хатах - эх, не паспелі, каб іх мацерамаць, гэтых бальшавікоў... А там, дзе польская адміністрацыя і польская паліцыя ўжо ўцяклі, а саветы яшчэ не дабеглі, пагромы на фальваркоўцах былі справай не паўсюднай, але звычайнай, штодзённай – на самотных фальваркоўцах-асадніках, на тых «каланізатарах» менавіта таму, што ў мяшаных вёсках і мястэчках дзесяткі і сотні палякаў былі здольныя да самаабароны. Былі «вывазкі» больш заможных і адукаваных людзей у быдлячых вагонах ў Сібір страшнай зімой 1940 года – і на тое была манаполія наезнай з Усходу савецкай улады. А побач з «вывазкамі» былі «рабункі мужыкоў» пакінутага палякамі дабра - бо гэта пераважна палякі, больш заможныя і лепш адукаваныя, трапілі ў савецкія вагоны – і ў тых рабунках не было манаполіі і не было нацыянальна-рэлігійнага падзелу, хапаў кожны, хто не ляніві; католік, праваслаўны, камуніст, беспартыйны, прапіты і цвярозы...

Быў новы напад, цяпер гітлераўскі: 22 чэрвеня 1941 года. І ўсё раскруцілася гэтаксама яшчэ раз, толькі з дакладнасцю да наадварот. Але ... не мая гэта справа. Не мая справа пісаць, чыё насельніцтва, як сказана ў рапартах разведкі АК, «на Беласточчыне вітала немцаў як вызваліцеляў»; чые былі пры немцах паліцыя і адміністрацыя на Крэсах; куды ў першыя паднямецкія дні зніклі jak do piachu сотні і тысячы «кацапаў» ... Пра тое мае пісаць мой калега-паляк. Бо то справа польскага гонару. А не «хамскай пыхі». Пра «сваіх хлопцаў» я толькі што ўсё напісаў.

**7**

Савецкая партызанка, якая мела заданне адбіраць ад гітлераўскага акупанта як можна больш абшару і трымаць палітычны кантроль над як можна большым насельніцтвам, не лезла на Крэсы да 22 чэрвеня 1943 года – альбо да нямецкіх эксгумацый у Катыні, і да таго дня, калі Сталін канчаткова пасварыўся з лонданскімі палякамі.

Працяг на стар. 10


Крэўскі замак – месца, дзе была падпісана унія паміж Польшчай і ВКЛ

# Лагойскія горкі



Яшчэ зусім нядаўна тут знаходзіўся дачны пасёлак (гэтак званы «садовы кааператыў»), людзі будаваліся, не ведаючы, які слаўны лёс чакае іх утульную мясціну. Цяжка прагназаваць колькі прыватных сядзібак тут застанецца, калі неўзабаве з’явяцца міні-кемпінгі, гатэлі і тысячы аматараў лыжнага катання на трасах. Агароды з бульбай, капустай і парнікамі ўжо сёння выглядаюць як рэлікт дробнаўласніцкай мінуўшчыны. Наўрад ці яны будуць аздабляць гэты курортны пейзаж у далейшы час. Ад Мінска да горналыжнага комплексу – усяго 36 кіламетраў. Усе, хто хоць некалі станавіўся на горныя лыжы і шукаў спартыўнай асалоды на невялікіх пагорках каля Мінска, хто ездзіў з такой мэтай у Карпаты, перамесцяцца сюды. Лагойскаму раёну такі аб’ект адкрывае перспектывы стаць цэнтрам зімовага турызму ў краіне і атрымаць айчынных інвестараў для розных праектаў, звязаных з горналыжным комплексам і з турыстычнымі маршрутамі Лагойшчыны наогул. Гэта і дадатковыя сродкі, і працоўныя месцы, і культурнае развіццё рэгіёна.

Лагойск - адзін з прыгожых гарадкоў Міншчыны. У пісьмовых крыніцах ён з`яўляецца ў 1078 годзе, амаль што адначасна з Мінскам, прычым таксама трагічнай падзеяй - спусташэннем войскамі Уладзіміра Манамаха. Рэшткі дзядзінца XI–XIII стагоддзяў дасюль захаваліся на беразе Гайны. На пачатку XVI стагоддзя, здаецца, у той самы год, калі адбываліся падзеі, якія адлюстраваныя ў кінафільме «Анастасія Слуцкая», Лагойск спустошылі крымскія татары. У 1517 годзе горад атрымалі Тышкевічы, якія валодалі ім чатыры стагоддзі. Тут былі збудаваны замак і Багаяўленская царква, а ў 1609 годзе паўстаў касцёл. У часе шведскага нашэсця драўляны замак быў разбураны, уладальнікі Лагойска збяднелі і прадалі маёнтак сваякам, таксама Тышкевічам. Напрыканцы XVIII стагоддзя на месцы замка былі заснаваныя уніяцкая царква і манастыр. Манастыр праіснаваў да 1834 года, а царква да 1841, калі пачалося масавае закрыццё уніяцкіх святыняў.

Вядомая лагойская сядзіба фарміравалася ў першай чвэрці 19-га стагоддзя. Уяўленне аб палацы Тышкевічаў дае акварэль Напалеона Орды. Палац быў шырока вядомы як буйнейшы музейны цэнтр тагачаснай Беларусі. Тут былі сабраны вялікія археалагічныя, гістарычныя, нумізматычныя і мастацкія каштоўнасці: старадрукі, болей за 1.000 старажытных грамат і прывілеяў, бібліятэка ў 15 тысяч тамоў кніг, прысвечаных гісторыі ВКЛ, зборы старадаўняй зброі, старых картаў, вельмі рэдкія рэліквіі, каля 200 карцін Яна Рустэма, Яна Дамеля, партрэты дванаццаці пакаленняў Тышкевічаў, здабыткі з раскопак у Пампеі і Егіпце. Адно гэта рабіла лагойскую сядзібу культурным асяродкам Міншчыны, і тышкевіцкі палац прываблаў усіх аматараў даўніны. Палац згарэў у гады вайны. Аб яго гісторыі нагадваюць зараз руіны.

Адначасна з палацам быў створаны і лагойскі парк. Яго прыгажосці садзейнічалі гістарычныя асаблівасці тэрыторыі. Пры планіроўцы парку былі скарыстаныя старыя замкавыя ўмацаванні з роавамі (раней мелі глыбіню 4-5 метраў, шырыню да 20 метраў) і валамі, якія паўколам атачалі замкавы двор. Парк займаў плошчу 16,5 гектараў і цягнуўся на 700 метраў уздоўж правага берага Гайны. У рацэ білі крыніцы, вада была крыштальна чыстая, а фарэль тут можна было лавіць рукамі. Калі на Гайне збудавалі дамбу, рака заліла лугавіну і паднялася да паркавай пасадкі. Вадасховішча атрымалася вельмі прыгожае, у ім не адчуваецца штучнасці, нібыта так было адвеку. За ім на пагорку стаіць новы касцёл. Старадаўні быў у 1950 годзе зруйнаваны пустадомкамі. У 1998 годзе на яго месцы пабудаваны новы касцёл. У яго падмурак закладзена захаваная гранітная пліта старога касцёла са словамі асвячэння ад 6 снежня 1796 года.

Асаблівасцю парку лічыліся крыніцы. Ціск вады быў такі моцны, што крыніцы «спявалі». Да крыніцы, якая б`е з-пад царкоўнага пагорка, склалася шаноўная, нават містычная, павага. Лічыцца, што вада з гэтай крыніцы дапамагае ад розных хваробаў, і сюды прыязджаюць па ваду людзі здалёк.

Найбольш прывабная частка парку займае месца старажытнага замка. Былыя замкавыя валы ўражваюць і сёння. На жаль, змены гідралагічнага рэжыму мясцовасці адбіліся і на паркавых краявідах: знікла бальшыня крыніц, перасох Валмянскі ручай, які яшчэ на памяці людзей сталага ўзросту перасякаў сядзібу.

З Тышкевічаў у 19 стагоддзі найбольш вядомыя Пій і яго



сыны Яўстафі і Канстанцін. Пры Піі ўзніклі парк і палац, гэта ён паклаў пачатак лагойскай музейнай калекцыі і прышчапіў сынам любоў да гісторыі і археалагічных раскопак.

Канстанцін Тышкевіч (1806-1868) даследаваў каля 200 курганаў, гарадзішчаў, замчышчаў на Міншчыне (каля Лагойска, Заслаўя, Барысава). Ён склаў першы тапаграфічны план гарадзішчаў. У 1856 годзе Канстанцін арганізаваў экспедыцыю па Віленшчыне. Тут сабраў багаты этнаграфічны і археалагічны матэрыялы. Быў адным з заснавальнікаў Віленскага музея старажытнасцяў.

Яўстафі (1814-1873) у 1843 годзе з мэтай археалагічных даследаванняў наведаў Данію і Швецыю. У 1847 г. у Мінску ён член часовай камісіі па зборы і выданні старажытных актаў, грамат і прывілеяў XVI-XVII стагоддзяў гарадоў Мінскай губерні. Быў ганаровым членам Пецярбургскай і Стакгольмскай акадэмій навук, Лонданскага археалагічнага інстытута.

У 1855 годзе Яўстафі становіцца апякуном аднаго з буйнейшых у Еўропе Віленскага музей старажытнасцяў (знаходзіўся ў будынку універсітэта). У гэты музей ён перадаў лагойскія калекцыя, якія збіраў болей за дваццаць гадоў. На ягоную ініцыятыву адгукнуліся ўсе культурныя калекцыянеры краю, перадаючы ў музей свае фамільныя рэліквіі і набыткі. Гэты унікальны збор, на вялікі жаль, моцна пацярпеў - ён разышоўся па розных музеях (Масква, Варшава, Кракаў), калі пасля паўстання 1863 года рэпрэсіі абрынуліся і на Віленскі музей старажытнасцяў.

Улічваючы былое культурнае значэнне Лагойска і тое, што ўся маса турыстаў не абміне горад, было б добра стварыць тут адпаведныя гістарычныя і культурныя экспазіцыі, мастацкую галерэю. У культуры нашых невялікіх гарадкоў такі атрыбут як пастаянная мастацкая выстава, адсутнічае, часам у краязнаўчых музеях ёсць некалькі карцін «па тэме». «Перасоўныя» выставы не ўключаюць у свае маршруты райцэнтры з-за невялікай колькасці наведвальнікаў. А іх не можа быць багата, бо не ўсталявалася такая традыцыя. Цалкам магчыма, што сітуацыя паспрые адраджэнню сядзібы Тышкевічаў, ва ўсялякім разе гэта сябе апраўдала б ва ўсіх адносінах.

Фотарэпартаж
Уладзіміра ШЛАПАКА







# Слуцкі збройны чын

Увосень 1920 года, калі Расея і Польшча падпісалі замірэнне, вызначаная дэмаркацыйная лінія Кіевічы–Лань і нейтральная зона паўз яе прайшлі праз Случчыну.

14 лістапада 1920 года быў скліканы з'езд Случчыны, які праходзіў у доме Э.Вайніловіча. З'езд выбраў часовы ўрад - Раду Случчыны – і пастанавіў распачаць збройнае змаганне супраць чужынцаў. Была аб'яўленая мабілізацыя сярод насельніцтва Слуцкага павета - Цімкавічаў, Капыля, Семежава, Грозава і іх ваколіцаў. Былі сфармаваныя два палкі: 1-шы Слуцкі полк і 2-гі Грозаўскі полк, аб'яднаныя ў Слуцкую брыгаду, якую ўзначальваў Антон Сокал-Кутылоўскі. 27 лістапада пачаліся баі. Супраць случакоў была кінутая Омская дывізія. Пасля больш як месяца ўпартых баёў нашы ваяры змушаныя былі адысці за раку Лань, дзе былі разбіта палякамі і змешчаныя ў лагер для інтэрнаваных. Многія са змагароў вярнуліся пазней на радзіму, але былі знішчаныя ў часе рэпрэсій.

## Асэнсаванні

Падзеі лістапада-сьнежня 1920 году былі на Случчыне актам дзяржаватварэньня. Нацыянальны камітэт як орган мясцовага самакіраваньня арганізаваў абраньне беларускіх камітэтаў замест прызначаных польскай адміністрацыяй войтаў у валасьцях і солтысаў у вёсках. Намаганьнямі Нацыянальнага камітэту былі створаныя каапэратыўныя саюзы, сфармаваная беларуская міліцыя - узброеная самаахова; наладжваліся мэханізмы сацыяльнай дапамогі. 15-16 лістапада адбыўся зьезд Случчыны, на якім 115 паўнамоцных прадстаўнікоў жыхароў рэгіёну сфармавалі Раду Случчыны - орган дзяржаўнае ўлады. Зьезд абвесьціў Случчыну часткаю БНР. Распачалося фармаваньне ўзброеных сілаў - і за тры дні паўстала Слуцкая брыгада, якая налічвала 4 тысячы чалавек.

Апынуўшыся ў нэйтральнай зоне, Слуцкая брыгада пад ціскам пераўзыходзячых сілаў Чырвонай Арміі вымушаная была адступаць на захад. Эвакуацыя Слуцку скончылася 24 лістапада, Рада Случчыны і Ваенная стаўка пераехалі ў мястэчка Семежава, куды сьцяклося да 15 тысяч чалавек. 1-ы Слуцкі полк заняў участак фронту ад Семежава да Вызны працягласцю прыблізна 20 км. Грозаўскі полк заняў абарону ў напрамку на Капыль.

Бальшавікі маштабны наступ распачалі 7 сьнежня, кінуўшы на Слуцкую брыгаду 8-ю і 17-ю дывізіі. Такія важныя пункты як Семежава і Вызна, некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі. 28 сьнежня Слуцкая брыгада вымушаная была адступіць і перайсьці мяжу з Польшчай, дзе было інтэрнавана больш за 1,5 тысячы афіцэраў і жаўнераў. Частка Слуцкай брыгады (каля 400 чалавек) на чале з афіцэрамі засталася ў нэйтральнай зоне для партызанскіх дзеяньняў. Некаторыя аддзелы пазьней увайшлі ў склад паўстанцкай сялянскай арміі «Зялёны Дуб».

Таму можна казаць, што падзеі на Случчыне ў лістападзе-сьнежні 1920-га - гэта самаарганізацыя і самаабарона жыхароў Слуцкага павету. З увагі на вайсковы бок падзеяў многія прадстаўнікі нацыянал-дэмакратычнага лягеру ўжываюць назву Слуцкі збройны чын. Сёлета мы зафіксавалі назву «слуцкія партызаны».

Між тым, ніводная з гэтых назваў не ахоплівае цалкам маштаб тых падзеяў - фармаваньне дзяржаўнага мэханізму Беларускай Народнай Рэспублікі на тэрыторыі Случчыны. Былі сфармаваныя як органы цывільнай улады, так і вайсковай. Узброеным сілам БНР на Случчыне прыйшлося весьці абарончыя баі. Нават і цяпер зьдзіўляюць хуткія тэмпы ды зладжанасьць фармаваньня усіх органаў дзяржаўнае ўлады, а асабліва – Слуцкай брыгады. Гэта сьведчыць, што тыя падзеі – не спантанны выступ і ня крок адчаю. Беларускае сялянства ўжо выдатна ўяўляла, хто ідзе на нашу зямлю з Усходу. Агульнай была таксама незадаволенасьць польскімі ўладамі. У такіх умовах дзейнасьць Рады Случчыны ўспрымалася як паўставаньне ўласнай законнай улады.

Адзначым, што крыху пазьней самі ўдзельнікі тых падзеяў выкарыстоўвалі азначэньне «Слуцкае паўстаньне». На беларускай нацыянальна-палітычнай нарадзе ў Празе 29 верасьня 1921 году была прынятая рэзалюцыя «Аб Слуцкім паўстаньні», якое характарызавалася як «нацыянальнае паўстаньне за незалежнасьць Беларусі».

**Алег ДЗЯРНОВІЧ**



**Паўстанец 1863 года па вяртанні з сібірскай ссылкі пасля амністыі 1883 года. Гэты здымак зрабіў знаны фатограф, дакладней кажучы, адзін з першых фотамастакоў нашага краю Станіслаў Флеўры. Яго вытанчаныя партрэты і краявіды маюць сёння унікальную каштоўнасць, як вось гэты ўражлівы партрэт невядомага з імя чалавека, ураджэнца Ашмяншчыны, у якога аднялі траціну жыцця за прагу да волі.**

 



Заканчэнне. Пачатак на стар. 7

Бо ў гэты дзень паявілася пастанова беларускага ЦК КП(б)Б таварыша Панамарэнкі «Пра неабходнасць развіцця партызанскага руху ў заходніх абласцях Беларусі». І там было сказана ясна, што тыя «заходнія вобласці ёсць неад`емная і неадрыўная частка нашай радзімы», а тыя «адзелы, якімі кіруюць польскія буржуазна-нацыяналістычныя колы»? адпаведна ворагі нашай радзімы, таварышы... Раней Сталін не ведаў, куды вайна паверне і як пасля вайны будзе, а цяпер ведаў: Вільня, Гродна, Брэст і Львоў будуць на савецкім баку, а польскія камуністы атрымаюць за гэта Гданьск, Шчэцін і Вроцлаў альбо прамысловыя нямецкія раёны. І будзе ціха – бо такая вымена выгўдная Польшчы пры любым і кожным палітычным рэжыме ў ёй. Гэта быў канец Крэсаў.

А польска-савецкая вайна пад нямецкім акупантам з восені 1943 года, трагедыя АК летам 1944 – як усё роўна яшчэ адзін горкі адчай верасня 1939! - рэпатрыяцыя ў Польшчу і новыя вывазкі ў Сібір, брак на Крэсах польскай інтэлігенцыі і хуткі занявад з той прычыны польскай партызанкі ў шалёна-помслівы «хату за хату, сына за сына» вясковы бандытызм пасля вайны – гэта ўжо не гісторыя Крэсаў. Гэта гісторыя бясслаўнай агоніі Крэсаў.

**8**

Сусветная вайна 1914 – 45 гадоў была першай вайной за доўгую гісторыю ліцьвіноў-беларусаў, якая, нарэшце, выйшла ім ... на карысць. Калі першая палова яе 1914-21 мала не скончылася поўнай нацыянальнай катастрофай, а скончылася такі «ганебным рыжскім падзелам» паміж Польшчай і Савецкай Расіяй, то ў выніку падзела на савецкім баку засталася «марыянеткавая» Беларуская ССР (у «марыянеткавым» Мінску ў 1921–22 гадах сядзеў... амбасадар Нямеччыны, а выехаў ён з той прычыны, што ў снежні 1922 года Беларуская ССР разам з Расіяй і Украінай дэ-юрэ на роўных утварыла Савецкі Саюз), якая ў выніку «пашырэннях» 1924–26 гадоў павялічыла сваё насельніцтва з 1 млн. да 5,5 млн. чалавек і – коштам Расіі! – дасягнула ўсходняй мяжы, адпавядаючай мяжы ... Рэчы Паспалітай перад разборам 1772 года! Але ўвогуле бальшавікі пакінулі яе як Беларусь, а не як Мінскую губерню ў складзе Расіі хіба з прычыны «палескага паходу» генерала Булак-Балаховіча ў лістападзе 1920 года, які дайшоў да Мазыра і там абвясціў сябе «Начальнікам Беларускай Дзяржавы!» Па тым «палескім паходзе» ваеннае становішча на Беларусі захоўвалася да сярэдзіны 1924 года (!) – і без нацыяналкамуністаў ды былых сацыялістаў не маглі маскоўскія камісары сфармаваць тут савецкую ўладу. Але генерал Булак-Балаховіч дзейнічаў адпаведна ... федэратыўнай канцэпцыі Пілсудскага! Вось і наступны парадокс: Беларуская ССР узору 1921 года ёсць ускосны вынік «федэралізму Пілсудскага», а самога маршалка можна залічыць да аднаго з «бацькоў-заснавальнікаў» беларускай дзяржаўнасці. Няхай сабе хоць савецкай ды «марыянеткавай». На самым сваім пачатку.

**9**

Перад другой паловай той Сусветнай вайны альбо перад шасціголдзем 1939–45 лёс Беларусі мог яшчэ раз павярнуцца незваротна, бо ўсё вісела на валаску...

Справа ў тым, што распачатая Сталіным у 1929 годзе «калектывізацыя» (colchozy) скончылася на «марыянеткавай Беларусі»... найпазней з усіх савецкіх рэспублік, бо толькі ў 1934 годзе! Гэта адлілося нацыянал-камуністам не толькі страшнымі стратамі – у ГУЛАГу іх загінула 99%, – але імкненнем Масквы ўвогуле зліквідаваць гэтых землярабаў-беларусаў ды іх непатрэбную больш Беларускую ССР! Сягоння гэта адзіны ў свеце край, дзе стаяць... два аднолькавыя Дамы ўрада, у Мінску і Магілёве – бо Сталін планаваў «далучыць» нам ад Расіі яшчэ Смаленскую вобласць, а індустрыяльны Магілёў на Дняпры зрабіць сталіцай «Западнорусской ССР», пры гэтым за адзін дзень касуючы ўсю беларускую асвету, школу, кнігу, культуру. Гэта мела быць найвярагодней летам альбо ў верасні (з улікам школьнага рытма працы!) ужо 1939 года, бо той магілёўскі Дом урада таварыш Панамарэнка скончыў будаваць з канцом 1938 года. Аднак за чатыры гады будоўлі свет чарговы раз стаў да гары нагамі ...

**10**

Так што ў параўнанні з тым, што было перад 1939 годам (і што магло быць!) і што было пасля 1945 года, вынікі Сусветнай Вайны для Беларускай ССР як адзінага прадстаўніка беларускай нацыі выглядаць ашаламляльна на яе карысць.

Па-першае, тэрыторыя і насельніцтва Беларускай ССР павялічылася амаль удвая.

Па-другое, абшар Беларускай ССР абдымаў практычна ўсе гэтак званыя этнічныя землі – адвальвалася прэч прычына павражных эвентуальных канфліктаў з суседнімі краінамі ў будучым.

Па-трэцяе, у 1945 годзе ў Сан-Францыска Беларуская ССР («марыянеткавая») трапіла ў краіны-заснавальніцы ААН, была тым самым суб'ектам міжнароднага права – цяпер ніякіх «западнорусских ссср» проста не магло быць; цяпер мелі быць герб, сцяг і гімн, якіх раней не было; цяпер маглі гэтаксама «пакінуць паўпрацэнта ўсяе прасторы» для беларускай мовы і культуры, але не маглі «адмяніць» яе за адзін дзень.

Па-чацвёртае, у выніку вайны практычна зніклі дзве дамінуючыя нацыі, габрэі і палякі, а Беларусь ператварылася з полікультурнай у монакультурную; габрэяў на 99% фізічна вынішчылі гітлераўцы, а палякі, галоўным чынам, ад саветаў, на тыя самыя 99% страцілі ў розных накірунках, ад вывазак на Сібір да прымусовых уцёкаў у Польшчу, сваю інтэлігенцыю (шляхту) і здэградавалі... да вясковага люду, такога самага, як беларусы.

Такім чынам, па 1945 годзе «старых добрых Крэсаў» больш не было, а на іх месцы была нечакана для сябе самой наскрозь савецкая і вясковая Беларуская ССР. Парадокс у тым, што праз дзесяцігоддзі ўжо міжволі свайго народа незалежная і суверэнная Рэспубліка Беларусь ... аказалася тымі самымі Крэсамі. Паміж Расіяй і Еўропай. Шлях да такой метамарфозы быў доўгі і выглядаў прыблізна так...

**11**

Хіба галоўным вынікам вайны было, аднак, тое, што да ўлады на Беларусі на ўсіх узроўнях паступова пачалі даходзіць менавіта беларусы. Чаго раней не было ніколі. З 1956 года беларусы-камсамольцы з «партызанскім радаводам» апанавалі амаль усё партыйнае і савецкае кіраўніцтва – ад ЦК і Урада ў Мінску да мястэчак і вёсак. Хто яны былі? Тыя Мазураў, Машэраў, Кавалёў, Кісялёў? Вясковыя дзеці. Амаль усе пагалоўна з адукацыяй «педагагічны тэхнікум» і прафесіяй ... «беларуская мова і літаратура». Але іх прыход да ўлады не выклікаў чарговага «адраджэння», бо іх задача была другая: а) захаваць сваю ўладу ў сваіх руках; б) не пусціць дзеля таго захавання сюды «русских из России». Дзеля таго быў выдуманы чарговы, шосты міф Крэсаў (альбо першы міф паваеннай Беларускай ССР), а менавіта: што беларусы гэта большыя рускія, чым самі рускія. Што яны ўжо перажылі сваю «отсталую» беларускую мову, хоць не «разумеюць». Што яны кругом і паўсюдна гаворацьпа-руску, і з гэтай прычыны «товарищи из Москвы» ім, беларусам, болей без патрэбы.

Паваеннае пакаленне беларусаў упраўляла сацыяльны аванс, гэта значыць бегла з тае вёскі з мястэчкам абы ў якую вучэльню – каб да тае вёскі больш не вярнуцца. Але «камсамольцы з партызанскім радаводам» імкнуліся, каб тая вёска ... не разбягалася па ўсім Савецкім Саюзе, а сядзела тут, найперш у Мінску, забяспечвала ім заплечча. Адных адміністрацыйных прымусаў ды матэрыяльных заахвочванняў было мала. Патрэбная была ў тым новым міфе свая ідэалогія.

**12**

Тую ідэалогію збудавалі на трагедыі вёскі Хатынь на поўнач ад Мінска, спаленай у вайну ўкраінцамі з waffen-SS. Там збудавалі цэлы мемарыял, а на ім цэлую ідэалогію, на якой узгадавалі цэлае пакаленне...

Былі 60-я гады XX стагоддзя. Час пэўнай абмежаванай сепарацыі мясцовых партыйных дзеячоў ад Масквы. Хатынь мела быць сімвалам веры, а ўся Беларусь мела выглядаць ахвяраю вайны – як тая Хатынь. Аблічыўшы ўсе магілы, ідэолагі з Мінска вывелі лічбу агулам загінуўшых на Беларусі - 2 млн. 200 тыс. чалавек у 10-мільённай краіне. У тыя страшныя страты трапілі ўсе, у тым ліку ваеннапалонныя Чырвонай Арміі з 1941 года – да 500 тыс. чалавек - габрэі «свае» і габрэі, прывезеныя з Еўропы, разам да 1 млн. чалавек etc. Адначасова савецкія ідэолагі як быццам заплюшчвалі вочы на тое, што з Беларусі на работу ў Нямеччыну трапілі да 500 тыс. чалавек, што адступіла ў 1944-м разам з немцамі да 300 тыс. чалавек, што ў 1944–45 гадах у Чырвоную Армію змабілізавалі 300 тыс. чалавек etc. Адным словам, што на самай справе было тут у вайну, які баланс – невядома дагэтуль. Лічба ахвяраў у 2 млн. 200 тыс. чалавек – той славуты «кожны чацвёрты» – была кампіляцыяй, але ... сумленнай. Была яна сумай архіваў, эксгумацый і перазахавання пасля вайны (канец 50-х) мноства безымянных паасобных магілаў у магілы брацкія. Не ў лічбе справа. Справа ў тым, што з тых ахвяраў вайны мелі сабе жывыя. Якую карысць ... А логіка мінскіх «русскоязычных белорусов» вяла іх так.



Па-першае, калі на 10 млн. насельнікаў ёсць на Беларусі неаспрэчныя (!!!) сведчанні пра 2,2 млн. ваенных ахвяраў альбо – увага: пачатак сёмага міфа! – «погибших советских людей», то гэта значыць, што... «Беларусь страціла кожнага чацвёртага свайго сына». Альбо – усе тыя 2,2 млн. ахвяраў гэта не габрэі, свае ды з Еўропы, гэта не палонныя Чырвонай Арміі, але свае беларусы з Хатыні і з партызанкі.

Па-другое, з гэтага натуральным спосабам вынікала, што Беларусь – гэта «партызанская рэспубліка», бо гэта мы «панеслі найбольшыя ахвяры, бо гэта мы больш другіх ваявалі etc, etc».

Па-трэцяе, калі гэта беларусы больш усіх іншых і пацярпелі ад гітлераўцаў, і мацней іншых ваявалі з імі, а пасля вайны мы, беларусы, засвоілі рускую мову найперш іншых народаў, а на дадатак яшчэ нібыта «кормім» тую Расію, то мы ёсць « народам сціплым, але выбраным». Альбо – народам лепшым за ўсе іншыя нібы брацкія народы.

У той «сціплай лепшасці», збудаванай на трагедыі лясной вёскі Хатыні, ёсць сутнасць савецкага беларускага нацыяналізму, які стаіць па сённяшні дзень. Гэта ёсць новая вера. Вера чалавека па сацыяльным авансе ў тое крэсла, на якое яго той аванс вынес...

**13**

Найцікавейшае тое, што ўжо асавечаныя мазуравы і машэравы, русіфікуючы тую беларускую вёску, першае, што зрабілі ў 50-я гады, дык гэта... свой уласны міф. Бо не жадалі быць часткай Расіі. А жадалі быць «лепшымі за рускіх, чым самі рускія». Як некалі віленскія «краёўцы» ў параўнанні з палякамі з Варшавы.

Парадаксальным чынам аднавілася «падвойная свядомасць»: у сярэдзіне XIX стагоддзя: «мы палякі, бо мы ліцьвіны», а ў сярэдзіне XX стагоддзя – «мы рускія, бо мы беларусы». А там, дзе паяўляецца «падвойная свядомасць», там паяўляюцца Крэсы!

Нават калі імя іх забыты...

**14**

Але праблема Беларусі – гэта праблема неразумення таго, што Крэсы працягваюць існаваць у выглядзе Рэспублікі Беларусь як частка Еўропы і частка Расіі адначасова.

Супрацьстаянне дзвюх культураў, лацінскай і візантыйскай, еўрапейскай, на зямлі ад Буга і да Дняпра скончылася... выпіхваннем аўтахтонаў з абедзвюх. Таму беларусам чужая еўрапейская вартасць адзінкі, асобы, прымат іерархіі асобы над іерархіяй улады. Таму беларусам гэтаксама чужая расійская ідэя саборнасці, службы імперыі, «жизнь за царя». На Беларусі дамінуе першабытны спосаб жыцця, калі няма выразнай мяжы паміж сваім і агульным. Беларусы – гэта нацыя дробных уласнікаў; тут ёсць адзінка, але гэта толькі частка клана; тут ёсць клан, але гэта не саборнасць, бо клан узалежнены ад кожнай свае адзінкі.

Такім чынам, беларусы адначасова «апошнія еўрапейцы» і «першыя рускія». Таму Рэспубліка Беларусь адначасова Крэсы Еўропы і Крэсы Расіі.

Гэта ўжо чарговы, восьмы міф Крэсаў. І адначасова чарговая, сягонняшняя рэальнасць Рэспублікі Беларусь.



Літвінскі панскі двор. Зборы на паляванне




Савецкая Беларусь

 

# Генеральны інспектар

## *Для мноства беларусаў заходніх раёнаў з 1921 па 1935 год Юзаф Пілсудскі быў кіраўнік дзяржавы*

Юзаф Пілсудскі нарадзіўся ў 1867 годзе на Віленшчыне. Прозвішча яго маці – Білевіч – сведчыць аб ліцвінскіх каранях глыбінёй у некалькі стагоддзяў і адпаведным выхаванні, якое атрымаў сын. Дзяцінства і маладосць Пілсудскага прыйшліся на часы рэпрэсій, расчаравання большасці палякаў і літвінаў у магчымасці эфектыўнай барацьбы супраць царызму. Яшчэ ходзячы ў старэйшыя класы гімназіі Юзаф вырашыў прысвяціць жыццё адзінай мэце – знішчэнню Расійскай імперыі. Не толькі адраджэнню Рэчы Паспалітай, але і вызваленню ад расійскага панавання ўсіх заняволеных імперыяй народаў.

За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях Пілсудскага выключылі з першага курса Харкаўскага універсітэта, болей ён не вучыўся. А праз два гады яго асудзілі за падрыхтоўку замаху на цара Аляксандра III – аднак суд не меў ніякіх доказаў, таму яго «толькі» саслалі на 5 год у Сібір. З пяці гадоў ссылкі Пілсудскі адбыў тры гады ў турме за арганізацыю кампаніі непадпарадкаванасці зняволеных царскай адміністрацыі.

Пасля вяртання з ссылкі ў 1890 годзе Пілсудскі стаў адным з заснавальнікаў Польскай сацыялістычнай партыі (ППС). Пэпэсаўцы здейснілі шэраг тэрарыстычных актаў супраць прадстаўнікоў царскай адміністрацыі. Баевікі ППС рабавалі банкі і паштовыя цягнікі, перадаючы здабытыя сродкі на мэты рэвалюцыйнай барацьбы. Юзаф Пілсудскі набыў славу добрага арганізатара такіх акцыяў.

Пасля пачатку руска-японскай вайны 1904 года Пілсудскі выправіўся ў Токіо, каб прапанаваць японцам разгарнуць скаардынаваную тэрарыстычна-дыверсійную кампанію ў тыле рускіх войск сіламі польскіх сацыялістаў. Ён трымаўся дэвіза ірландскіх змагароў за незалежнасць: «Цяжкасці для Англіі – шанец для Ірландыі». Японскі генеральны штаб адхіліў план Пілсудскага як фантастычны.

Вайна, якую чакаў Пілсудскі, пачалася ў 1914 годзе. Ён адразу развіў энергічную дзейнасць. У выніку Вена дазволіла сфарміраваць у складзе аўстрыйскай арміі дабраахвотныя польскія легіёны. Ваеннаабавязаныя на ўласны выбар маглі ўступаць у гэтыя легіёны ці ісці служыць у звычайныя «агульнааўстрыйскія» часткі. Аднак згодна з тайным распараджэннем аўстрыскага імператара, мясцовыя ўлады павінны былі рабіць усё магчымае, каб у Польскі легіён не траплялі прадстаўнікі «ніжэйшых» слаёў насельніцтва – рабочая і сялянская моладзь, якія павінны былі служыць у аўстрыйскіх падраздзяленнях. Улада разглядала легіёны як «цацку» для нацыянальна свядомых маладых палякаў, у першую чаргу студэнтаў і гімназістаў, якія так проста паміраць за імператара не пайшлі б, а маглі нават стаць ядром для якіх-небудзь антыаўстрыйскіх выступленняў. Нацыянальным легіёнам аўстрыйскі генштаб не спрыяў – ім давалі найгоршае ўзбраенне, ставілі на самыя небяспечныя месцы на фронце. І хоць Пілсудскаму ўдалося дамагчыся ад аўстрыйцаў дазволу на польскага арла на фуражкі сваіх легіянераў, на рукавах яны мусілі насіць жоўта-чорную павязку – колеры Габсбургаў. Фармальна Пілсудскі камандаваў толькі Першай брыгадай. Але для ўсіх легіянераў ён быў «любімы камендант». Паралельна з гэтым Пілсудскі ствараў з легіянераў і цывільных Польскую арганізацыю ваенную (ПАВ).

У 1916 годзе яўнае нежаданне Пілсудскага і легіянераў цягаць каштаны з агню для аўстрыйскага і германскага імператараў стала відавочным. Польскія легіёны былі раззброены і інтэрнаваны, а сам Пілсудскі змешчаны ў турму нямецкага горада Магдэбург.

Але шэраг падзеяў – Лютаўская рэвалюцыя ў Расіі, а потым Кастрычніцкі пераварот, Брэсцкі мір, а пасля рэвалюцыя ў Германіі – спрычыніліся да таго, што Польшча адрадзілася як дзяржава. Толькі паспеўшы стварыць першыя дзяржаўныя інстытуты, Польшча адразу ж увязалася ва ўзброеныя канфлікты: з немцамі – за Познань і Вехнюю Сілезію, з чэхамі – за Цешынскую Сілезію, з украінцамі – за Львоў і ўсю Усходнюю Галіцыю, з літоўцамі – за Вільню, з бальшавікамі – за Валынь і Беларусь.

Летам – напачатку восені 1919 года Пілсудскі, магчыма, уратаваў Савецкую ўладу ў Расеі. Усе ўброеныя канфлікты – і з украінцамі, і з немцамі, і з чэхамі, і з літоўцамі былі ўжо выйграны альбо «спушчаны на тармазах». А над ленінскай Масквой навісла рэальная пагроза – наступленне Дабраахвотніцкай арміі Дзянікіна. Польскія ж войскі, якія паўгады самастойна змагаліся з Чырвонай Арміяй, проста назіралі за вырашальнай сутычкай з Беларусі і Валыні. І як ні прасілі, загадвалі, пагражалі кіраўнікі краінаў Антанты (бязвольнай марыянеткай якіх, па сцвярджэнням камуністычнай прапаганды, нібыта быў Пілсудскі), польскія салдаты з месца не зварушыліся. Пазней Пілсудскі шчыра пісаў, што ў выпадку перамогі белагвардзейцаў і рэстаўрацыі царскай імперыі, не магло б быць і размовы аб вольнай Украіне і Балтыі. І Польшча ў лепшым выпадку магла разлічваць на «этнічную» мяжу (якая пазней атрымала назву лініі Керзана і стала рэальнасцю пасля Другой сусветнай вайны), а тое і быць прымушанай да якой-небудзь «федэрацыі» з Расіяй. Маршал дачакаўся, пакуль дзянікінцы будуць разгромлены, і выступіў у паход сам.

Тагачасны міністр ваенных справаў і адзін з бліжэйшых паплечнікаў Пілсудскага генерал Саснкоўскі лічыў, што ў студзені 1920 года «польска-руская вайна ўжо была фактычна завершана, паколькі мірныя ўмовы, прапанаваныя рускімі, былі лепшымі за тыя, да якіх мы імкнуліся». Сапраўды, польскі сойм тады вырашыў адстойваць межы, якія ў



канечным выніку і падзялілі Польшчу і Савецкую Расію ў 1921 годзе і праіснавалі да 1939 года. А Ленін, які імкнуўся да мірнай перадышкі любым коштам для перагрупіроўкі сілаў перад новым этапам сусветнай рэвалюцыі, прапанаваў палякам «міні-Брэст» – у дадатак да тых зямель, якія яны атрымалі, яшчэ сённяшнія Хмяльніцкую, Мінскую і частку Житомірскай абласці .

Але 26 траўня савецкія войскі перашлі ў контрнаступ напачатку на Украіне, а потым і ў Беларусі, і праз два с паловай месяцы палякі страцілі не толькі Кіеў, Мінск і Вільню, але і ўбачылі бальшавіцкія палкі ў 13 кіламетрах ад Варшавы. У акупаваным Беластоку быў створаны Польскі рэвалюцыйны камітэт – зародак урада Савецкай Польшчы, а камандаючы Заходнім форнтам Тухачэўскі шчыра заявіў у загадзе вайскам, што яны «праз труп белапанскай Польшчы панясуць на сваіх штыках полымя сусветнай рэвалюцыі на Захад Еўропы».

І вось тут здарыўся «Цуд на Вісле». У жнівеньскай бітве пад Варшавай савецкія войскі пацярпелі сакрушальную паразу і вымушаны былі ўцякаць. Толькі за ліпень 1920 года ў Войска Польскае ўступілі 150 тысяч добраахвотнікаў. Але без Пілсудскага не было б перамогі пад Варшавай, хоць бы таму, што не было б самой Варшаўскай бітвы. На пачатку жніўня шмат хто з вышэйшага ваеннага і цывільнага кіраўніцтвва краіны лічылі, што неабходна без боя пакінуць Варшаву і адступаць на Захад у былую прускую Польшчу, межы якой бальшавікі нібыта не наважацца перайсці. Аўтарытэтны генерал Ройя патрабаваў ад урада адхіліць Пілсудскага, выпусціць з турмаў польскіх камуністаў і паспрабаваць праз іх дамовіцца з Масквой. Аб чым? Аб умовах капітуляцыі? Толькі жалезная воля і аўтарытэт Пілсудскага зберагла ўсё ад развалу.

Потым былі яшчэ перамогі над бальшавікамі на Нёмане. 18 кастрычніка варшаўскі сойм заключыў замірэнне з Масквой, а 18 сакавіка 1921 года – і мірную дамову ў Рызе. Тое, што мір, заключыць які як мага хутчэй імкнуліся і Масква, і Варшава, быў падпісаны толькі праз пяць месяцаў, выклікана ў першую чаргу супрацьдзеяннем Пілсудскага. Але ўся Польшча аб`ядналася супраць яго. Краіна была зморана шасцігадовай вайной, федэралісцкія планы Пілсудскага здаваліся хімерай, а польская мірная дэлегацыя, якая складалася з яго палітычных праціўнікаў, прыклала ўсе намаганні, каб новая лінія мяжы была праведзена не надта далёка на ўсход , – у сойме проста не хацелі, каб падданымі Польшчы стала шмат украінцаў і беларусаў. Галоўнай жа умовай савецкай дэлегацыі было, каб палякі адмовіліся ад падтрымкі незалежнасці Украіны. Пасля таго, як польская дэлегацыя пагадзілася з гэтым, праблемаў практычна не стала. Таму Пілсудскі заўжды быў пераканаmaking, што вайна 1920 года не была даведзена да лагічнага канца. Праз 15 год, за месяц да смерці, ён гаварыў свайму ад`ютанту: «Я прайграў сваё жыццё. Мне не ўдалося стварыць свабодную ад рускіх Украіну».

Яшчэ адным балючым расчараваннем для Пілсудскага стала катэгарычнае нежаданне яго землякоў-літоўцаў увайсці хоць у якую федэрацыю ці канфедэрацыю з Польшчай. Болей за тое, у 1920 годзе літоўскія войскі ваявалі супраць палякаў у саюзе з бальшавікамі. Генерал Людвік Жалігоўскі, таксама літвін, як і Пілсудскі, увосень 1920 года фармальна выйшаў з польскай службы і захапіў сіламі сваёй дывізіі Вільню і Віленшчыну, большасць насельніцтва якой складалі паланізаваныя беларусы. Было створана квазідзяржаўнае ўтварэнне - «Сярэдняя Літва» (нешта накшталт «Малдаўскай» Прыднястроўскай рэспублікі). Тры гады Пілсудскі ўгаворваў літоўцаў вярнуцца ў «абдымкі польскага брата» і атрымаць назад сваю сталіцу ў абмен за «унію». Але літоўцы ніяк не пагаджаліся са стратай незалежнасці. Тады Віленшчына была прылучана да Польшчы, у складзе якой яна заставалася да 1939 года. Гэта таксама стала адной з прычынаў таго, што ў 1923 годзе Пілсудскі выракся ўсіх дзяржаўных пасадаў і выправіўся ў добраахвотную ссылку ў мястэчка Сулеювэк пад Варшавай.

Аднак Юзаф Пілсудскі не доўга цярпеў «разгул» дэмакратыі. Пасля двухдзённых баёў у Варшаве 12-13 траўня 1926 года пілсудчыкі зламілі супраціўленне войскаў, якія заставаліся вернымі законнаму ўраду і прывялі да ўлады свайго правадыра. Рэжым улады Пілсудскага існаваў у Польшчы да самай яго смерці ў 1935 годзе, а фактычна і далей, бо аж да верасня 1939-га ўсю паўнату ўлады ў краіне трымалі пілсудчыкі. У 1930 годзе быў разагнаны сойм і праведзены масавыя арышты ўсіх палітычных апанентаў Пілсудскага. Ён вельмі любіў легенду аб сабе як аб бацьку незалежнасці і адзіным творцы дзяржавы і рабіў усё, каб узмацніць яе. Ён спрабаваў паставіць сябе вышэй усіх дзяржаўных пасадаў, не кажучы ўжо аб палітычных партыях. Не выпадкова, што мянушка Дзядок вельмі часта ўжывалася на старонках праўрадавай прэсы, і Пілсудскі нічога не меў супраць такой фамільярнасці.

Створаны Пілсудскім санацыйны рэжым служыў аўтакратыі. Фактычна ўся ўлада была засяроджана ў руках адзінага клану – былых легіянераў. За экзальтаванай патрыятычнай рыторыкай пілсудчыкаў у шматлікіх выпадках хавалася некампетэнтнасць, а вельмі часта і карупцыя, пад лозунгам барацьбы з якой яны і прыйшлі да ўлады. Адным з падмуркаў санацыі была так званая пацыфікацыя (замірэнне) нацыянальных крэсаў. Як яна праходзіла, з якімі парушэннямі правоў людзей, з якім размахам паланізацыі, здзекаў, ведаюць усе.

Юзаф Пілсудскі памёр 25 траўня 1935 года. Праз чатыры гады, у верасні 1939 года, уся дзяржаўная пабудова, якую ўпарта і старанна ўзводзіў Пілсудскі, абвалілася. На працягу некалькіх тыдняў Гітлер і Сталін разграмілі ўзгадаваную Пілсудскім армію і падзялілі яго дзяржаву.

Аднак фундамент яе аказаўся надзвычай моцны. Перакананасць ў абсалютнай каштоўнасці ўласнай незалежнай дзяржавы ўвашла ў кроў палякаў менавіта за два дзесяцігоддзі існавання «міжваеннай» Польшчы. Пілсудскі зрабіў тое, што здавалася немагчымым, і засведчыў, што вера можа матэрыялізавацца.

**Пётр ШУМЕЙКА**

Арсень ЛІС

# Дзіцячы свет

*З серыі «Вётхаўскія эцюды»*

Аглядаюся на пражытае бог ведае з якой ужо часавай далечыні - блізу сямідзесяці гадоў. Бачу сябе спачатку вачыма маці, праз успамін. Казала неяк: « Вяртаюся з поля ў жніво. Баба, седзячы з суседкамі на лаўцы пры вуліцы, трымае цябе на каленях. А ты худзенькі, як гарохавая лапатка. Лахае старая з каляжанкамі, а ты, думаю, ці хоць пакормлены ў час. Угледзеў мяне, трымціш, хочаш нешта сказаць. Перакладаю серп з рук на плячо, бяру цябе на рукі, а ты адразу жаліцца :

- Баба каяла літант, літант!..

- Ну, які ты рыштант, - спрабую разважыць, а ты не ўнімаешся:

- Баба каяла літант, літант!..

Значыць, атэставала арыштантам. Вырас, прыглядалася, прымервалася як да арыштанта і ўлада. Але пакуль што чаша гэта мінала. Дарогі засталося няшмат. Можа і абміне зусім.

Яшчэ адна згадка. Ад самых жыццёвых пачаткаў, вуснамі бацькі. Але да яе патрэбны невялікія, гісторыка-сацыяльнага кшталту ўводзіны.

Бацька жаніўся рана: прыспешвалі, змушалі сямейныя абставіны. Сястра Надзя першай выскачыла з дому - пайшла замуж аж у Сінькі за Дзмітру Шульжыцкага, чалавека майстраватага, рухавага, з васемнаццаці гадоў «уцягнутага ў палітыку», падпольніка. Самы старэйшы брат Іван, падвучаны, гімназіі аднак не скончыў, рана арыштаваны дэфензівай і прыгавароны Віленскім акруговым судом на шэсць год зняволення за «антыпанствовую дзейнасць», сядзеў у лукішскай турме. Сярэдні брат Жэня адбываў чынную службу ў польскім войску. Сам на той час гаспадар, мой дзед Пятрок, я яго не заспеў у жыцці, у нестарым веку, казалі, быў ужо нямоглы. Некалі з бліжняга лесу, саматугам, цягаў на сабе бярвенне на пабудову гумна, расшырыў лёгкія, задыхаўся пры самай простай рабоце. У майго ж бацькі, яшчэ будучага, надходзіў тэрмін чыннай службы ў войску. Нельга было пры такім становішчы ў сям`і кінуць гаспадарку, хай сабе і невялікую, на адны, ужо не маладыя матчыны рукі. У хаце патрэбна была нявестка-работніца.

Праз паўтары гады, вярнуўшыся з вайсковай службы, адбытай у Варшаве на Макатове, бацька не застаў у хаце ніводнага мужчыны. Дзед Пятрок адышоў з жыцця, маючы пяцьдзесят сем год. Іван, выпушчаны з турмы праз тры гады па амністыі, паражоны ў грамадзянскіх правах, мусіў быў сысці нелегальна ў Расею. Следам за ім падаўся і Жэня, яшчэ да войска зангажаваны старэйшым братам у працу камуністычнага падполля. Бацька, самы малодшы ў сям`і, застаўся адзіным гаспадаром на трох дзесяцінах зямлі, атрыманых пасля адмены прыгону ягоным дзедам, а маім прадзедам, Андрэем, графскім парабкам у двары Агінскіх у Залессі. Трэба было думаць пра будучыню.

Тым часам вяскоўцы зусім нечакана, зходу, далучылі бацьку да грамадскай справы супольнага клопату. Вёска судзілася з панам за сервітут, кавалак зямлі-няўдобіцы, званай Букарава. Тое Букарава, нізкавата паложаныя прагалы з асакой ды невялікія лапінкі лесу, было патрэбна вётхавічанам, як паветра. Была гэта адзіная мясціна выпасу жывёлы, да таго ж ляжала побач з вёскай, лічы адразу за гумнамі. Суд трымаў руку пана, цягнуўся доўга. Вяскоўцам раптам нечым спракудзіўся іх паўнамоцны стары гаспадар Макара Ліс, і яны на сходзе грамадскім заступнікам і хадатайнікам сваім абралі майго бацьку. Відаць, спрычыніўся да таго аўтарытэт яго старэйшага брата Івана, які мог напісаць людзям прашэнне, параіць, куды звярнуцца ў патрэбе крыўды ад улады.

Бацька з дапамогай хроснага, мастака і педагога Віленскай беларускай гімназіі Паўла Южыка, ездзіў у Вільню да адваката ў справе цяжбы вётхавічан з панам, прывозіў знанага праўніка ў вёску, і суд, нарэшце, прыняў не Саламонава рашэнне: Букарава - сялянам, але за плату. Людзі былі радыя і такому зыходу справы: пры невялікіх надзелах Букарава - лішнія прырэзкі да поля, а перш-наперш - паша, без якой дзе дзецца з каровамі ды коньмі. Вётхавічане без малу ўсе падалі прашэнне на куплю зямлі: хто на гектар, хто на два, а хто і на тры. Зямля была ў цане, але людзі спадзяваліся неяк сабраць тыя злотыя, выплаціць. У бацькі не было грошай не то што на тры гектары, але і на адзін. Ды выплата, раскладзеная на раты, меркавалася на некалькі гадоў. Прыкідваў, што неяк удасца сабраць патрэбную суму. Планаваў зрабіць і тое, і другое, але зямлі прыдбаць «кунешне», каб надтачыць скупы дзедаў-бацькаў надзел. У Куце на вышэйшым сваім полі, адкрытым усім вятрам, хацеў, добра было б пабудаваць вятрак. Як ні меркаваў, не было адпаведнай мясціны, дзе можна было б выкапаць сажалку: была б свежая рыба, і на продаж нешта вырасла б... Ды мара аб зямлі раптам наткнулася на глухую сцяну. Упраўленец тымі, судом прысуджанымі на парцыляцыю, панскімі землямі, нехта Карповіч, заявіў, што зямля Лісу Сэргеюшу не будзе прадана, налажыў на бацькава прашэнне адмоўную рэзалюцыю. Што было рабіць? Маці кінулася ў Яневічы да свайго бацькі, што парадзіць? Мой дзед па матчынай лініі Юстын не быў багатыром, з якім лічыліся б усе, у тым ліку ўлада. Але ў шырокай залескай ваколіцы стаўся чалавекам знаным, аўтарытэтным. У царскія часы некалькі год служыў ён леснікам, а цяпер мала хто мог раўняцца з ім у пчалярстве і сталярстве. Суседзі, знаёмыя паважалі, улада лічылася. Адно, што дыскрэдытавала ў яе вачах Юстына Дудку, гэта хіба тое, што быў ён бацькам трох сыноў-бальшавікоў. Ды цяпер яны далёка, у Расеі. Увогуле ж, да гонару польскай міжваеннага часу адміністрацыі, у цэлым шэрай, часта недалёкай, трэба зазначыць: да закладніцтва як формы анамальнай палітычнай помсты яна не дайшла. Не дадумаліся ці Бога пабаяліся? Сказаць з пэўнасцю цяжка. А так лёгка было ўзяць прыклад з суседзяў, дзе зямляк Дзяржынскі з Леніным аформілі закладніцтва ў юрыдычны закон і карысталіся ім спраўна. Юстын Дудка апрануў свой чорны сурдут і адправіўся, як цяпер бы сказалі, па інстанцыях - бараніць зяцеву мару аб кавалку зямлі. Неўзабаве бацька ўжо араў выдзеленую яму дзялку дзервану. Арба тая ледзь не скончылася трагічна.

Каб узняць спракавечны папар, бацька расстараўся параконнага плуга, да свайго Смаленца ў прыпражку - суседскагага каняку. Нязвыклыя хадзіць у парцы, коні ішлі няроўна: аступаліся, тузаліся, збіваліся з хады. Ворыва было цяжкае. Праўда, лемешам адвальваліся вялізныя скібы, баразна пракладвалася глейкая, глыбокая. Раптам коні моцна тузануліся і сталі, як укапаныя. Араты ўспамінаў: « Гойкнуў на іх раз-другі, - не ідуць. Толькі сабраўся агрэць неслухаў пугайдрацянкай і што ўбачыў - аж скаланула ўсяго. У баразне, пад самымі конскімі капытамі - маё дзіця. Пагнаў бы іх яшчэ раз, ударыў і... Згрузілі б цябе, жах падумаць...» Як абмінуў бабіну апеку, дабраўся да поля, якое, што праўда, было рукой падаць, запоўз у баразну, аратай, ашаломлены здарэннем, не мог даўмецца. Схапіў на рукі малога. Перахрысціўся, падзякаваў Богу, пацалаваў каня ў мызу. Дзіцяці, сыну наканавана было жыць. Жыць і быць сведкам няпростага жыцця простых людзей, сваякоў і суседзяў, сустраканых на жыццёвай дарозе людзей, добрых і ненадта, - усякіх. Спакойна, але неабыякава зірнуць у вочы часу свайго пакалення. А час жа не абы-які - другая палова дваццатага - пачатак дваццаць першага стагоддзя.

А напачатку пару абразкоў з краіны дзяцінства. Не страхатлівых, як той вышэй, што і не быў страшны немаўляці: проста была гульня з каменьчыкам, шкельцам у баразне. Гульня на грані лёсу: быць або не быць.

Але ж у маленстве, нават у сціплых абставінах вясковага дзяцінства, шмат святлінак, якія і праз гады ўспыхваюць у памяці. Вось за руку з бацькам ідзём да Фаміча. Гэта бацькаў хросны. Я, натуральна, не ведаю, што ён мастак і можа рабіць нешта незвычайнае, прыгожае і загадкавае. Заходзім на сядзібу і літаральна ўпіраемся ў лёгкую з дошак будыніну, на ўсю сцяну якой прамянее вялізнае сонца. Чырвоныя доўгія промні коса ляцяць уверх, іншыя ўпіраюцца ў самую зямлю. Пры высокім, крытым жалезам доме, стройная блакітная елка. Ад высокага ганка нам насустрач ідзе дзед у белым палатняным касцюме, круглай белай шапцы, з ляскай-кійком у руцэ. Вітаецца з бацькам за руку. Я гляджу на яго знізу ўверх і не баюся: ужо не раз бачыў яго ў нас дома. Мне знаёмы яго гучнаваты голас, нязвычныя словы. Увогуле гаварыў ён неяк іначай, чым усе тут. А заглядаў ён да нас у хату часцей па нейкай гаспадарчай патрэбе, часам проста пагаварыць з бацькам пра жыццё. Адзін такі візіт Фаміча запомніўся мне тым, што бацька пасля яго адходу гаварыў са мной вельмі строга, з дакорам. Помню, была сонечная раніца. Я толькі што прачнуўся, прыслухаўся: за перагародкай гаварылі... Тарэц нашага дома глядзеў на ўсход. Пад шчытом, над самымі вокнамі, штолета гняздзіліся ластаўкі. Раніцай рана, як і на той час, яны ўсчынялі вясёлую мітусню, радасны шчэбет. Сонца праз акно даставала мяне на тапчане. Касая паласа яго падала і на сцяну, дзе вісеў дыванок з мамінай аплікацыяй. На ім - вышытая зялёным трава, а на ёй выразаныя з матэрыі дзіцячыя фігуркі тварам у твар - хлопчык і дзяўчынка. Лежачы на спіне, я перабіраў нагамі па перагародцы і тым дыванчыку на ёй ды напяваў. Мне хораша і няўтомна спявалася прыпеўка, пачутая надоечы ад пастушкоў, сэнс якой быў вельмі далёкі ад дзіцячага разумення:

*Ой, тупы, тупы, тупы,*
*Разгуляліся папы...*

Я паўтараў і паўтараў упадабаны рытм, словы, несвядома любуючыся гульнёй іх, « Ой, тупы, тупы, тупы...», аж пакуль не прыйшоў за перагародку бацька, пытаючыся нязвычна строга: « Ад каго ты навучыўся гэту дрындушку?» Затым наказаў мне нават неяк злосна: « Каб ніколей болей не чуў я ад цябе гэткага глупства! Чуеш? Запомніў!»

***

Было некалькі і як бы больш менш сталых адмецін у маім даваенным, яшчэ пад Польшчай, дзяцінстве. Трэцяга мая ў даваеннай Польшчы ўважалася за дзяржаўнае свята. Ды селяніну, трыманаму ў вечным клопаце пры зямлі, адных будзённых дзён для працы было малавата. Помню, бацька канчаў таго дня загадзя пачатую работу, далей абгароджваў гародчык. Мяне ж паслаў выглядаць на вуліцу, каб часам не надышоў на яго работу паліцыянт. За абразу дзяржаўнага свята можна было атрымаць ладны штраф, а значыць, нешта трэ было б утачыць ад тых залатовак, што ашчадна, па адной збіраліся на выплату за зямлю. Быў я яшчэ ў бацькі за дазорцу, калі ён у савецкія святы па радыё слухаў Менск і Маскву. Бацька быў купіўшы дэтэктар - невялікую чорную скрыначку і слухаўкі пры ёй, у вольную хвіліну стойваўся пры шафцы, дзе гэта размоўнае цуда стаяла. Я ж нейкі час мусіў шпацыраваць па вуліцы, гатовы кожную хвіліну, згледзеўшы постаць у чорным мундзіры ды шапцы з бліскучым брылем, папярэдзіць тату. Бацьку, ды не яму аднаму тут, на захад ад польска-савецкай граніцы, рупіла ведаць,што там на Усходзе, дзе былі яго старэйшыя браты Іван і Жэня. Па праўдзе кажучы, не ведаю і сёння, ці так моцна абходзіла палітычнаму рэжыму даваеннай Польшчы тое слуханне яго грамадзянінам замежнага радыё. Хутчэй у маёй варце, выглядванні дзяжурнага паліцыянта была лішняя бацькава засцярога, перастрахоўка. Тым не менш на ўзроўні падсвядомага, аб`ектыўна малы далучаўся да рэальнай палітыкі дарослых.

***

Перад тым, як перагарнуць да канца старонкі дзяцінства, яшчэ дзве-тры згадкі. Перш-наперш, і гэта ўжо да гонару бацькоў, скажу, што маці з бацькам справіліся з той нялёгкай для маламоцнай гаспадаркі выплатай за купляную зямлю. Не здолелі б зрабіць гэта, каб не знайшлі дадатковай крыніцы даходу. Бацька навучыўся рабіць на продаж санкі. У хаце пры акне з`явіўся варштат, стукала, грымела, шоргала габэлькамі сталярка. Але сані давалі толькі аднасезонны заробак. З ім адным і ад выручкі з таго, што гадавалася, расло ў гаспадарцы, укласціся ў вызначаныя дамовай раты выплаты было немагчыма. Чакана-нечакана выручылі шпэкты. У двары пані Жаброўскай, якая з нейкага часу загаспадарыла ў колішнім маёнтку Агінскага, бацька разгледзеў, як вырошчваліся каліфоры - цвятная капуста ды іншая гародніна.

Бацька загарэўся новай ідэяй – развядзеннем гародніны на продаж. На паўднёвым баку хлява, дзе з ранняй вясны добра прыпякала сонца, змайстраваў плоскую зямную цяплярню - шпэкты. Я асіставаў бацьку ў яго ранішнім аглядзе цяпліцы. Ён здымаў саламяныя маты, якімі нанач накрываліся зашклёныя рамы, і праз запацелыя, у кропельках расы, шыбіны зялёнымі вачанятамі глядзела на свет безліч раслінак. Бацька крыху прыпадымаў раму, казаў, трэба даць раслінам дыхнуць сонечным паветрам, і з-пад шкляных вокан ішоў парны зямны дух. Адчуваю яго і праз гады.

Маці з вясны прападала ў градах: гарод быў ладны і патрабаваў пільнага дагляду - пасадка, поліва, паліў. Як выбіраліся маці з бацькам са сваёй гароднінай і садавінай на рынак, я звычайна не бачыў, бо ўставалі яны рана, а другой гадзіне ночы, грузілі на воз прадукцыю і конна везлі яе ў Смургоні. Гэта вёрст дванаццаць ад Вётхава дарогі старым гасцінцам. Я адно ўжо ад абеду пільнаваў на вуліцы іх вяртання. Найчасцей яны вярталіся пазней за іншых, пад самы вечар.

- Тваіх бацькоў жыды на мацу ўкралі, - кідаў хлапчаняці на яго пытанне праезны Гаварэньчык.

- Няпраўда!.. - абураўся я ўслед яго возу, цвёрда ведаючы, што ён здзекуецца з мяне, паўтараючы чутую ўжо не раз байку пра мацу.

Нейкіх тыдні за два да таго, як Гітлер напаў на Польшчу, аднаго кірмашовага дня, бацька і маці вярнуліся з рынку радасныя, як ніколі. За купленую зямлю было поўнасцю сплачана, атрыманы дакумент; бацька падняў яго ўверх, паказаў у святле лямпы, сказаў: «Купчая». Паперына была сапраўды нейкая асобая, блакітна-белая, з чырвонай сургучнай пячаткай. На рэшту грошай, упершыню за некалькі гадоў былі куплены апратка і абутак: маці - першае ў замужжы паліто, прыгожая сукенка, боцікі, бацьку - касцюм, хромавыя боты і ясёнка. Нешта перапала на носку бабе Прузыне і мне. Але тое было для мяне не надта важна. Грунт - бацька купіў мне пугач і паказаў, як з яго страляць. Я зараз жа пальнуў са свайго пісталета ў цемру і пачуўся пэўным: нікога цяпер не баяўся. Мог пры патрэбе абараніць і маці, і бабулю. Бацька ж не меў у тым патрэбы: ён сам дужы і каго хочаш сходае.

***

І яшчэ адна згадка, ужо з вераснёвых часоў 1939 года. Быў сведкам, як сыходзіла Польшча, тая, якая цяпер завецца даваеннай. На мае дзіцячыя вочы гэта з большага выглядала так. Бацькі дома ўжо не было, яго мабілізавалі ў першыя ж дні, як пачалася польска-нямецкая вайна. Са старэйшых, жанатых вётхавічан позвы ісці ў войска прыйшлі толькі яму і яго стрыечнаму брату Грышку Будвісу, той спяшаўся пасеяць азіміну. Бацька ж быў ужо ўсеяўшыся, а да астатняй работы, казаў неяк у хаце, апалі рукі. Не бачыў я, як ён адходзіў, нічога мне не сказалі ў той момант.

Неяк няўзнак у вёсцы з`явілася шмат чужых людзей у чорнай форме. Казалі, гэта калежы - польскія чыгуначнікі. Яны сядзелі на лаўках, грузнаватыя, прыціхлыя, сціху між сабою размаўляючы. Казалі, іх эвакуіравалі з карэннай Польшчы, занятай ужо немцамі. Аднаго дня ўсе яны некуды раптам зніклі, як праз зямлю праваліліся. Людзі загаварылі, што ідзе Чырвоная Армія, каб узяць нас пад апеку. Якраз капалі бульбу. Мы выбіралі яе на Букараве, як раптам над полем нізка праляцеў самалёт, так нізка, што добра былі відаць зоркі на яго крылах. Услед яго лёту густа пасыпаліся ліcткі. «Афішкі скідае!» - крыкнуў нехта зычным голасам, і капальнікі кінуліся падбіраць лятучыя ліcткі. Я наўскач сігануў збіраць іх таксама. Помніцца буйнейшая і дробная графіка радкоў, літар на іх.

- Такі, праўда, ідуць да нас Саветы, - сказаў стары Баўтрук, далёка адставіўшы ад воч афішку, і абвёў усіх, хто быў побач, радасным позіркам.

Гэта потым мы будзем асэнсоўваць, што адбылося. А далей адбылося, скажа па часе стары дасціпны чалавек, тое, што і павінна было адбыцца. Два ліхвяры, найбольшыя ў найноўшай гісторыі тыраны, падзялілі Польшчу, якая таксама ўмела квапіцца не на сваё, і ўвыніку сталі адзін перад другім пыса ў пысу, не без хцівай думкі: перахітрыць адзін аднаго.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Біёграф Вашынгтона

**У адным з папярэдніх нумароў «Новага Хасу» быў надрукаваны артыкул пра нашага знакамітага земляка, вядомага пісьменніка Юліяна Урсына Нямцэвіча, які стаў адным з першых біёграфаў Джорджа Вашынгтона (1732-1799). Яго «Кароткі нарыс пра жыццё і дзейнасць генерала Вашынгтона» выйшаў на польскай мове ў Варшаве ў 1803 годзе, гэта значыць праз чатыры гады пасля смерці вялікага амерыканца. У адрозненне ад самай вядомай і ўхваленай біяграфіі першага амерыканскага прэзідэнта, напісанай Мэйсанам Уімсам, якая выйшла на тры гады раней, «Нарыс» Нямцэвіча заснаваны на яго ўражаннях ад сустрэч з Вашынгтонам. Пераклад урыўкаў з «Кароткага нарысу» зроблены Янінай Язвінскай.**

«Кароткі нарыс» мае сто дваццаць старонак і, хоць уяўляе адно цэлае, складаецца з дзвюх амаль роўных частак. Першая ўтрымлівае біяграфічныя звесткі пра Джорджа Вашынгтона, у другой Нямцэвіч апавядае пра свае знаёмства і стасункі з прэзідэнтам пасля яго адстаўкі (нагадаем, што ў ЗША не прынята ўжываць слова «былы» ў адносінах да прэзідэнтаў). У прадмове да «Нарысу» Нямцэвіч выказвае ўпэўненасць, што жыццё гэтага вялікага чалавека будзе цікава суайчыннікам. *«Распавядаю пра яго з пахвалою, распавядаю з хваляваннем, бо пра кага яшчэ належыць так расказваць, як не пра чалавека, які ўмеў ваяваць, кіраваць, якога не сапсавала ўлада, які, нарэшце, безаганна правеў апошнія свае гады. Можа падацца, што у апісаннях яго асабістага жыцця я надаю занадта шмат увагі дробязям, але ж менавіта дробязі малююць чалавека. Вялікі чалавек, калі ён стаіць на чале войска, з'яўляецца ваяўнікам, на чале ўрада – дзяржаўным дзеячам, і толькі дома, ва ўласным доме ён становіцца сам сабою».*

«Нарыс» адкрываецца інфармацыяй пра народзіны і дзяцінства Джорджа Вашынгтона, пра яго бацькоў, няўдалую спробу стаць маракам, службу ў міліцыі, першыя ваенныя подзвігі падчас вайны з індзейцамі. Далей Нямцэвіч распавядае пра жаніцьбу Вашынгтона, акалічнасці атрымання маёнтку Маунт Вернан, удзел у першым Кантынентальным Кангрэсе, абранні яго галоўнакамандуючым амерыканскай арміяй. Нямцэвіч не згадвае падрабязнасці Амерыканскай Рэвалюцыі, бо, па яго словах, у яго не хапае гістарычных матэрыялаў, але пералічвае некаторыя драматычныя эпізоды вайны. Ён падкрэслівае здольнасць Вашынгтона вырашаць праблемы, якія узнікалі ў гэты час: *«Апрача недахопу людзей, харчоў, грошай, адзення і зброі ён не раз мусіў змагацца з зайздрасцю і непаслухмянасцю. Неаднойчы жаўнеры неаплачваемай міліцыйнай арміі, доўга церпячы голад, недахоп адзення і нават абутку, альбо пакідалі лагер і разыходзіліся па дамах, альбо са зброяй у руках бунтавалі і дамагаліся належнага ім. Вашынгтон сваёй разважлівасцю, сталасцю, красамоўствам суніманў гэтыя бурныя хваляванні, лагодзіў узрушаныя пачуцці, знішчаў намеры, якія маглі несці з сабой страшэнныя вынікі».*

Пісьменнік апавядае пра тое, як апантана сустракалі Вашынгтона жыхары Нью-Йорка, Філадэльфіі і іншых мясцін пасля заканчэння вайны. Ён адзначае тыя якасці, якія амерыканцы найбольш цанілі ў генерале, – сціпласць, далікатнасць, спакойнае пачуццё годнасці, высакародную прастату яго прамоў, а таксама чалавечнасць, з якой той аднёсся да раялістаў – тых амерыканцаў, якія на пачатку вайны былі на баку ангельцаў. Нямцэвіч падмацоўвае свае сцвярджэнні вытрымкамі з перапіскі Вашынгтона з Амерыканскім філасофскім таварыствам, іншымі арганізацыямі і асобамі. Потым ён вядзе гаворку пра адмову Вашынгтона ад ваеннай пасады ў 1783 годзе і прыводзіць цалкам яго прамову, адзначаючы, якое вялікае ўражанне яна зрабіла на слухачоў. Ён нагадвае прычыны, што прымусілі асобныя штаты з'ядначца, і распавядае пра адмову Бенджаміна Франкліна (якога, заўважым, Нямцэвіч, на думку сучаснікаў, нагадваў сваім выглядам) ад пасады прэзідэнцтва, бо яму было ўжо восемдзесят два гады, і яго прапанову гэтай пасады генералу Вашынгтону.

Нямцэвіч, які меў добры досвед парламенцкай дзейнасці і выдатна ведаў цяжкія наступствы палітычнай барацьбы для ўсякай краіны, не мог не ўхваліць Вашынгтона за мудрае рашэнне праводзіць паседжанні Канстытуцыйнага Кангрэсу тайна, інакш *«канвенцыя ніколі б не зрабіла сваёй важнай справы, і злучэнне штатаў не адбылося б»*. І дадае: *«Лёсы людзей часта залежаць ад аднаго кроку. ...Шчасце, якое выпала Амерыцы, на жаль, дадзена не ўсім народам. Яе новы ўрад пачаўся пад кіраўніцтвам мужа, які навучыў народ любіць і шанаваць сваю канстытуцыю. Ён суняў бурлівыя змовы, упаўнаважыў справядлівасць, заахвоціў навукі, земляробства і гандаль, заснаваў публічныя банкі, устанавіў просты і выдатны спосаб анулявання даўгоў рэспублікі і пратэрмінаванай платы войску, адным словам, увёў усю сучасную фінансавую сістэму.... Вашынгтон, двойчы абраны прэзідэнтам, правёў на гэтай важнай і цяжкай пасадзе восем год. Для такога чалавека як ён, хапіла часу, каб даць новым законам устойлівы і паслядоўны рух і надаць усяму прыстойны выгляд. Яго пераемнікам дасталася больш лёгкая праца».*

Спасылаючыся на сведкаў, Нямцэвіч распавядае пра рэжым працы і звычкі Вашынгтона ў часе яго прэзідэнцтва. Асабліва цікавым уяўляецца наступнае: *«Амаль штодзень ён мае на абедзе дэпутатаў, сенатараў, сакратароў альбо міністраў дэпартаментаў і чужаземцаў. Усё, што застаецца ад стала, адразу адсылаецца ў турмы і дамы для нямоглых. Звычай гэты захоўваўся на працягу ўсяго яго прэзідэнтства. Гадавы даход прэзідэнта, вызначаны Канстытуцыяй, складае 25 тысяч піястраў, альбо 125 тысяч чырвоных залатых. У яго было правілам не траціць з гэтых грошай ні шылінга на асабістыя ўжыткі, а ўсё накіроўваць на выдаткі, звязаныя з ягоным ведамствам».* Пісьменнік так заключае аповед пра характар прэзідэнта: *«Адважны без ліхацтва, людскі без слабасці, вельмі добры без марнатраўства, колькі разоў ён прыйшоў на дапамогу няшчаснаму, колькі разоў узнагародзіў смелыя і прыгожыя учынкі. Спалучаў таленты і дабрачыннасці, якія ўпрыгожваюць чалавека - грамадзяніна і чыноўніка: мудрасць, памяркоўнасць, святло, людскасць і сціпласць; цноты, якія забяспечвалі яму пашану і павагу сучасных суграмадзян і нашчадкаў. Такім ён быў галоўнакамандуючым ад 1775 да 1783 года, як прыватная асоба з 1783 па 1789 год, нарэшце, як прэзідэнт Злучаных Штатаў ад гэтай апошняй эпохі аж да свайго адрачэння ад улады ў 1796 годзе».*

Аднак Нямцэвіч добра разумее, што і аб'ектыўныя абставіны гарантавалі Амерыцы яе поспехі: *«Колькі разоў успамінаю я тую памятную эпоху, гэтае неспадзяванае здарэнне, якое зрабіла*



*Амерыку народам вольным і гаспадарлівым, сотні разоў благаслаўляю я цудоўную сувязь акалічнасцей і выпадкаў, на якія глядзеў з пяшчотнай увагай і неспакоем добрага грамадзяніна».* У лёсе тагачаснай Амерыкі пісьменнік бачыць здзяйсненне ідэй Асветніцтва. Калі б амерыканцы *«аслепленыя заўзятасцю, вар'яцтвамі і шаленствам загавараў і разбэшчанасці, падарвалі сваю ўласную справу, .... закапаліся пад яе руінамі, у такім выпадку належала б усумніцца ў людской натуры, і думаць, што чалавек не варты добрадзействаў свабоды, што, нарэшце, народная ўлада з'яўляецца пустой і нікчэмнай марай».*

Як вядома, перад заканчэннем двух тэрмінаў – з 1789 па 1797 год – Вашынгтон падаў у адстаўку. У развітальнай прамове ў верасні 1796 года, у якой перасцерагаў суайчыннікаў супраць партыйных разладаў і залежнасці ад еўрапейскіх краін, ён сказаў такія словы: *«Нацыя, якая адносіцца да другой са звыклай нянавісцю альбо са звыклымі добрымі пачуццямі, у нейкай ступені з'яўляецца рабом. Такая нацыя - раб сваёй варожасці альбо сваіх добрых пачуццяў; кожнага з дзвюх дастаткова, каб адвесці яе ад сваіх абавязкаў і інтарэсаў. ...Асноўнае правіла для нас у зносінах з другімі краінамі заключаецца ў тым, каб пашыраць гандлёвыя стасункі, але мець як мага менеі палітычных сувязяў».*

Другая частка «Кароткага нарысу» уяўляе сабою дзённікавыя запісы, якія адлюстроўваюць асабістыя стасункі Нямцэвіча з Джорджам Вашынгтонам. Яны адкрываюцца аповедам пра іх першую сустрэчу. Яна адбылася 21 траўня 1798 года ў доме ўнучкі вашынгтонавай жонкі (у яго не было сваіх дзяцей) Марты Петэрс і яе мужа, якія жылі ў яшчэ не дабудаванай будучай сталіцы Злучаных Штатаў. Вось як апісвае ён гэты вечар: *«Каля сёмай гадзіны мы прыбылі да Петэрсаў. Я заўважыў Вашынгтона праз акно і адразу пазнаў яго. Насустрач выйшла асоб дзесяць, я бачыў толькі яго, мяне прадставілі; ён працягнуў мне руку і паціснуў маю. Мы зайшлі ў пакой, я сеў каля яго, не размаўляў, але ўважліва сачыў за ім. Постаць яго цудоўная і спалучае годнасць з прыгажосцю; партрэты, якія я бачыў у Еўропе, не вельмі падобныя да яго; мае росту каля шасці футаў; сабою мужны і дужы. ... Распытваў мяне пра генерала Касцюшку, пра яго здароўе, пра падарожжа па вадзе і іншае. Спытаў, ці даўно я ў гэтай краіне, як яна падабаецца. Я адказаў, што рад знаходзіцца ў гэтым краі, што гэта шчасце, якое я так палка хацеў бы бачыць на сваёй айчыне. Сціпла схіліўшы галаву, ён сказаў мне: «Як кожны разумны чалавек, я таксама жадаў дабра вашай айчыне». Словы гэтыя сказаў з чуласцю».* На развітанне Вашынгтон запрасіў Нямцэвіча ў госці ў свой маёнтак Маунт Вернан. На наступны дзень Нямцэвіч зноў сустрэўся з Вашынгтонам на абедзе ў Петэрсаў, а потым яшчэ два дні сустракаўся з ім у доме свайго прыяцеля Пітэра Лава.

А 2 чэрвеня спадар Лаў і Нямцэвіч выехалі ў Маунт Вернан. Пісьменнік падрабязна апісвае краявіды маёнтка, знешні выгляд дома і яго інтэрь`ер, карціны, якія ўпрыгожвалі сцены. Яго ўразілі рэчы, звязаныя з Бастыліяй: сапраўдны ключ турмы, малюнак, які адлюстроўваў яе разбурэнне, яе мадэль вышынёй каля двух футаў, зробленая з камянёў, вынятых з муроў Бастыліі. Усе гэтыя рэліквіі былі прысланы генералу графам Лафайетам. Шмат старонак дзённіка займаюць апісанні флоры і фаўны, якія ўбачыў Нямцэвіч у тых мясцінах. Ён параўноўвае іх з любымі яму раслінамі, жывёламі і птушкамі далёкай радзімы. Ён аддае належнае густу гаспадара: *«Адным словам, дом, сады, плантацыі, утрыманне ўсяго даказваюць, што чалавек, народжаны з натуральным густам, адчувае прыгожае, хоць узораў яго і не бачыў. Вашынгтон ніколі не выязджаў з Амерыкі, але, гледзячы на яго дом і сады, кожны сказаў бы, што ён бачыў усе найпрыгажэйшае ў Англіі».* Некалькі разоў госць суправаджаў гаспадара ў паездках па фальварках, шматлікіх абшарах палёў, засеяных рознымі гатункамі збожжа, пшаніцы, гароху, маісу, ільну, тытуню, наведаў млын, бровар, стайні. Яго непрыемна ўразіў той факт, што ў Вашынгтона было каля 500 чорных і каляровых рабоў, жыццё якіх, як адзначыў ён пасля наведвання некалькіх негрыцянскіх мазанак і размоў з упраўляючым, было шмат цяжэйшае за жыццё польскіх сялян.

Не раз размова заходзіла пра палітыку. Нямцэвіч прыводзіць усхваляваны маналог Вашынгтона пра Францыю: *«Ніхто не адчуў большай за мяне радасці, калі даведаўся аб Французскай рэвалюцыі; прызнаюся, што ніколі не спадзяваўся, што Францыя калі-небудзь зможа стаць сапраўднай народнай рэспублікай – у звычаях сапсаваная, у граніцах расцягнутая, шматлікі народ, па характару неспакойны і ні ў чым не ведаючы меры; але я разумеў, што французы створаць сабе нешта падобнае і нават лепшае за ангельскую канстытуцыю; правілы і дзеянні першага народнага сходу былі скіраваны на гэта, але неўзабаве памылкі караля, а хутчэй за ўсё, яго атачэння, слепата шляхты... адчынілі ганарыстым і запальчывым дэмагогам поле для крывавых сутычак паміж сабою і ўсім светам. Тады знікла першая мэта, дзеля якой пачыналася рэвалюцыя, надышлі вар'яцкія правілы, неналежныя і нікчэмныя; увесь народ праліваў кроў і пакутваў за думкі і заўзятасць некалькіх задзірыстых верхаводаў. ... Адно за адным ішлі заваяванні, але які ж канец? Ці стала Францыя больш вольная і шчаслівая, як была? Ці не сталі Галандыя, Італія і асабліва Швейцарыя больш няшчаснымі як раней? Па-мойму, усё гэта з-за ганарыстасці і прагі грошай. О, бедная свабода, як жа цябе зняважылі!» Тут гнеў спыніў яму мову...»*

Раніцою 15 чэрвеня Нямцэвіч *«у апошні раз абыйшоў зялёныя гаі Маунт Вернана, апошні раз кінуў позірк на адкрыты краявід, на чыстую і цудоўную плынь Патамака; і ў шостай гадзіне раніцы, выказаўшы ўдзячнасць за гасцінны прыём і жаль ад расставання больш смуткам і маўчаннем, чым словамі, развітаўся з шаноўным генералам Вашынгтонам, з паважанай яго жонкай, з прыгожай, добрай і ветлівай Міс Касціс».* У адказ на ліст Нямцэвіча, у якім той выказаў падзяку за ветлівы і сардэчны прыём, Вашынгтон паміж іншым напісаў наступнае: *«Тое, што айчына пана не такая шчаслівая якой магла бы быць у выніку яе патрыятычных і шляхетных намаганняў, з'яўляецца няшчасцем, якое горка аплакваюць усе прыхільнікі свабоды і правоў чалавека, і калі б мае малітвы пад час вашых жорсткіх выпрабаванняў маглі даць якія-небудзь вынікі, то вы былі б такімі ж шчаслівымі пад сваімі вінаграднікам і фігавым дрэвам (Нямцэвіч пазначыў, што Вашынгтон ужыў біблейскі выраз) і цешыліся б такімі ж жаданымі дарамі, якімі цешыцца народ Злучаных Штатаў». Аўтар ліста запрасіў Нямцэвіча яшчэ раз наведаць Маунт Вернан. З вялікім жалем пісьменнік адзначае, што не «скарыстаў ветлівага запрашэння гэтага дастойнага чалавека. Я пражываў у іншых краях; а праз паўтара года пасля гэтага ён пайшоў з жыцця».*

Няма сумніву, што Нямцэвіч пісаў «Кароткі нарыс» з думкай, што яго суайчыннікі і сапраўды маглі б цешыцца пад сваім «фігавым дрэвам», калі б абставіны напрыканцы 18-га стагоддзя былі іншымі і калі б тагачасныя лідэры Рэчы Паспалітай валодалі якасцямі першага прэзідэнта ЗША, генерала Джорджа Вашынгтона.

**Вольга СУДЛЯНКОВА**

# Рухайся – і не будзе часу на стрэс і лішкаў вагі



Вучоныя кажуць, што галоўная хвароба XXI стагоддзя гэта не СНІД і не рак, а звычная бальшыні дэпрэсія. Па прагнозах пакутваць на яе ў нашым тэхнагенным стагоддзі будуць, і, як не дзіўна, маладыя, і даволі паспяховыя людзі. На захадзе, у Германіі і Іспаніі, ужо зараз на час дэпрэсіўнага стану ўрад гарантуе грамадзянам аплочаны адпачынак і захаванне працоўнага месца.

Тым часам тыя ж навукоўцы сцвярджаюць, што самы просты спосаб пазбегнуць «страшнага захворвання» – гэта звычайныя фізічныя практыкаванні. У спартовай залі кожны можа атрымаць натхненне і палепшыць свой фізічны і псіхічны настрой.

Добра тым, ад каго штодзённая праца вымагае добрай фізічнай формы, а калі ўвесь дзень за паперамі і камп'ютэрам... У такім выпадку дыстанцыя «з працы дадому і з дому на працу» пастулова з вельмі кароткай ператвараецца ў сапраўдны марафон, які прыходзіцца перадольваць штодня. І справа не ў адлегласці, а ва ўласным фізічным самаадчуванні.

Што рабіць, як захаваць форму і не стаць ахвярай стрэсаў? Адказы на гэтыя пытанні дае Ганна Калко, трэнер аднаго з мінскіх фітнэс-клубаў.

**– Што могуць даць фізічныя практыкаванні жанчыне? Ці праўда, што пасля фізічных трэніровак выпрацоўваецца гэтак званы «гармон шчасця»?**

– Па-першае, спорт, як ні дзіўна, прыводзіць у парадак мазгі. Я, напрыклад, ведаючы, што мне трэба на трэніроўку, старалася заўсёды ўсю інтэлектуальную працу зрабіць да яе.Таму жыццё становіцца больш упарадкаваным і арганізаваным. Наконт «гармона шчасця» нічога дакладна сказаць не магу. Бывае, што не хочацца ісці на трэніроўку, але калі ведаеш, што прыйдуць людзі, якія ад цябе чакаюць энэргіі, запалу, а пасля бачыш у іх на тварах прыемную стомленасць – гэта вялікае задавальненне таксама і для трэнера. Я ў такія моманты адчуваю сябе ў нейкім сэнсе шчаслівай.

**– Калі запытацца ў жанчын «Ці вы хочаце займацца спортам?», большасць адкажа: «Так, канешне». Але тых, хто рэальна робіць крок ад жадання да канкрэтных дзеянняў – адзінкі. Чаму так?**

– Напэўна таму, што жаданне недастатковае. Ці можа быць ёсць жаданне, але няма нагоды, якая б падштурхнула. Мне самой цяжка гэта зразумець. Здаецца, вельмі шмат рэкламы. Магчыма, стрымліваюць высокія кошты, і не кожная жанчына можа сабе дазволіць набыць праезны, форму і абанемент на кожны месяц.

Часам у жанчын быццам бы не хапае часу, але сцверджаны факт, што варта толькі пачаць, зрабіць першы крок, і час адразу знаходзіцца. У нас жа ёсць час, каб, напрыклад, чысціць зубы, гэта ўваходзіць у звычку, і пасля мы ўжо не заўважаем, што робім гэта кожны дзень. Таму варта толькі паспрабаваць.

Я разумею, калі прыходзіш з працы дадому стомлены, і хочацца, каб, і ты думаеш, што трэба яшчэ некуды ісці – ці таньчыць, ці, тым болей, бегаць, – жадання ніякага. Але калі пачынаеш гэта рабіць, адкрываецца быццам бы другое дыханне, з'яўляюцца лёгкасць, новыя сілы.

Да нас у клуб ходзіць адна жанчына, якая ўвесь дзень стаіць на працы і ўвечары з-за гэтага яе ногі апухаюць – праблема з якой многія жанчыны сутыкаюцца. Яна стала хадзіць на трэніроўкі, таньчыць, і, па яе словах, да яе вяртаецца добрае самаадчуванне.

**– Самая, бадай, распаўсюджаная прычына, якая штурхае жанчын заняцца спортам – гэта жаданне пахудзець? Ці спраўджваюцца надзеі такіх кліентак?**

– З групамі я бачуся два разы на тыдзень, і таму мне цяжка заўважыць нейкі прагрэс. Але калі ў мяне сесія, я звычайна прашу, каб мяне замянілі. Затым вяртаюся на працу, і калі бачу кліентаў «да і пасля», то адзначаю, што большасць з іх у нашмат лепшай форме.

**– Ці варта жанчынам комплексаваць з-за сваёй фігуры і лішніх кілаграмаў?**

– Я думаю, што ні ў якім разе. У мяне самой ёсць такі комплекс, але для мяне гэта больш як жарт. На маю думку, ад гэтага нічога не залежыць. Іншая справа, што калі такі комплекс з'яўляецца, трэба ісці і недзе займацца: у басейн, на танцы, у спартыўную залю. Тады жанчына будзе адчуваць сябе больш упэўнена, і комплексы проста адыдуць. Больш таго, кожнай жанчыне вельмі падыходзіць яе ўласная комплекцыя, і калі некаторыя становяцца занадта худаватымі, губляецца нейкая іх уласцівасць і прыгажосць.

**– А як наконт дыеты?**

– «Садзіцца на дыету» катэгарычна забараняецца. Увогуле, само гэтае слова для мяне вельмі непрыемнае. Лепш казаць «правільнае харчаванне».

**– Што можна сказаць пра «праблему цэлюліту», ці сапраўды яна існуе, ці гэта праблема раздутая «глянцавымі» часопісамі, і ўяўляе сродак для выцягвання грошай касметычнымі фірмамі?**

– Я думаю, што гэта ад прыроды. Тут можна паразважаць, але генеральна я супраць цэлюліту. Пра цэлюліт не трэба шмат разважаць, ад яго трэба пазбаўляцца.

**– Спорт – твой асноўны занятак? Чаму табе падабаецца гэтая праца?**

– У маёй працы ёсць сцэнічны момант. Фактычна, я перад некім выступаю. Атрымліваю асалоду ад таго, што аддаю энергію, і адначасова яна да мяне вяртаецца ад людзей. Вялікае задавальненне, калі нашыя кліенты нешта спрабуюць, стараюцца і ў іх атрымоўваецца. Гэта натхняе. Па свайму складу я спартыўны чалавек. З дзяцінства займалася плаваннем, фігурным катаннем, танцамі, вялікім тэнісам, але ўсё гэта не было сур'ёзным захапленнем. Зараз заканчваю факультэт права па спецыяльнасці юрыст-эканаміст. Увесь час, пакуль вучуся, працую трэнерам па аэробіцы.

**– Можна атрымаць ад цябе некалькі парадаў, калі ўсё ж такі не хапае часу, як трымаць сябе ў добрай фізічнай форме?**

– Па-першае, ёсць шэраг практыкаванняў і даволі эфектыўных, якія можна выконваць проста седзячы. Месца для спорту і фізічных нагрузак павінна быць у кожнай жанчыны, незалежна ад таго, чым яна займаецца. Час трэніроўкі – гэта час для сябе, для свайго здароўя, лепшага адчування, псіхалагічнай разгрузкі. Не трэба баяцца, бо заняткі не могуць нашкодзіць здароўю, хіба, толькі калі практыкаванне выконваецца няправільна.

**– Кліенты вашага клуба – жанчыны. Якога ўзросту большасць з іх?**

– Да нас ходзіць хлопец, праўда, пакуль толькі адзін. Ён інжынер-праграміст, кажа, што пачуваецца ў нас вельмі камфортна. Тое, што аэробіка толькі для жанчын, – гэта няправільны стэрэатып. Большасць жанчын, што займаюцца ў нас, мае сярэдні ўзрост, каля 35. Я думаю, што ўзрост, як нішто іншае, стымулюе да заняткаў спортам.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Эфэкт Моцарта

Грэгарыянскія харалы і музыка Моцарта зьніжаюць стрэс, дэпрэсію, фобіі, дапамагаюць заснуць, а таксама дапамагаюць дысьлексікам. Вядомы амэрыканскі музыкатэрапэўт Дон Кэмпбэл, назваў дабратворнае ўзьдзеяньне музыкі на здароўе і добрае самаадчуваньне «эфэктам Моцарта».

Зачараваны гукамі і вібрацыяй струнаў ад 5-гадовага ўзросту, калі ён упершыню сеў за сямейны раяль, Кэмпбэл усё сваё жыцьцё прысьвяціў дасьледаваньню ўплыву музыкі на розныя аспэкты чалавечага жыцьця. Ён хутка прыйшоў да высновы, што адпаведная музыка мае неверагодна вялікі ўплыў на здароўе чалавека.

Праз духоўнае ўзбагачэньне, аднаўленьне ўнутранай гармоніі, супакаеньне і палёгку музыка актывізуе абарончыя мэханізмы арганізму, а гэта ў сваю чаргу дазваляе чалавеку спраўляцца з выпрабаваньнямі лёсу, хваробамі і калецтвам. Кэмпбэл зьяўляецца аўтарам такіх кніг, як «Лячэбная моц тонаў і сьпеваў», «Аздараўленьне зь вялікай музыкай», «Музыка і цуды». Кніга Дона Кэмпбэла «Эфэкт Моцарта» ў 1997 годзе сталася бэстсэлерам у ЗША.

Дасьледаваньні ўплыву музыкі Моцарта на здароўе распачаліся ў канцы 50-х гадоў у Францыі. Д-р Альфрэд Тамаціс праводзіў тады экспэрымэнты ў галіне слыхавай стымуляцыі ў дзяцей з дысьлексіяй – парушэньнем здольнасьці чытаць. Цягам 30 гадоў па ўсім сьвеце адкрыліся сотні тэрапэўтычных цэнтраў, у якіх скарыстоўваліся кампазыцыі Моцарта, найперш яго ныя канцэрты і сымфоніі. У 90-я гады экспэрымэнты пачалі праводзіцца ў Каліфарнійскім Унівэрсытэце ў Ірвіне, а ў 2001 годзе ў Вялікай Брытаніі распачаліся дасьледаваньні ўплыву музыкі на эпілептыкаў.

У чым незвычайнасьць музыкі славутага аўстрыйскага кампазытара? Тэрапэўты кажуць, што яна ясная, дасканалая ў сэнсе формы і высокай частаты гуку. Падбор адпаведных фрагмэнтаў музыкі праводзіцца з улікам танальнасьці, тэмпу, а таксама псыхалягічных, фізіялягічных і эстэтычных чыньнікаў: усё дзеля таго, каб выклікаць адпаведную слыхавую, фізічную і эстэтычную рэакцыю пацыента. Бэтховэн, Вівальдзі і Штраўс гарманізуюць і інтэгруюць рытм працы сэрца і мозгу. Затое музыка Моцарта – выключная, бо яна ўплывае на нэрвовую сыстэму і сэнсаматарычную актыўнасьць чалавека – кажуць спэцыялісты.

Музыка, і зразумела, ня толькі кампазыцыі Моцарта, скарыстоўваецца ў самых розных мэтах. У шэрагу краінаў адпаведная лагодная музыка шырока ўжываецца, каб затрымаць кліентаў у крамах і рэстаранах, а таксама дзеля большай эфэктыўнай працы на заводах. Амэрыканскія навукоўцы прыйшлі да высновы, што пад уплывам адпаведнай музыкі лепш растуць некаторыя расьліны і жывёлы на жывёлагадоўчых фэрмах.

Аднак большасьць спэцыялістаў найбольш істотным лічаць усё шырэйшае прымяненьне музыкі ў мэдыцыне. Падчас фізычных практыкаваньняў пад музыку паляпшаецца памяць і канцэнтрацыя. Музыка дапамагае пры лячэньні парушэньняў слыху, аўтызму, і цэлага шэрагу псыхічных ды фізычных анамаліяў. Пасьля 10 хвілінаў слуханьня адпаведнай музыкі ў большасьці людзей праходзіць стомленасьць, запавольваецца дыханьне і пульс. Музыка зьмякчае нэгатыўныя эмоцыі, такія, як злосьць, антыпатыя і агрэсія. Дапамагае таксама ў працы і адпачынку.

У Аўстраліі ў рамках барацьбы з высокай сьмяротнасьцю музычныя праграмы ўжываюцца для лячэньня стрэсу і дэпрэсіі сярод кіроўцаў і студэнтаў. Хоць гэта гучыць неверагодна, але гукі даходзяць да ненароджанага дзіцяці, і чалавека ў коме. Станоўчы ўплыў музычнай тэрапіі зафіксаваны ў цяжарных жанчынаў, а таксама ў людзей з фобіямі і нэрвовым расстройствам.

У ЗША рытмічныя музычныя гукі ўжываюцца ў рэабілітацыі пацыентаў пасьля апэрацыяў сэрца і галавы. Аказалася, што акрамя ўзьдзеяньня на эмацыйную сфэру, адпаведна падабраныя гукі маюць станоўчы ўплыў на стрававальную сыстэму і кровазварот. З дасьледаваньняў, праведзеных японскімі вучонымі, вынікае, што слуханьне музыкі ад першых гадоў жыцьця станоўча ўплывае на памяць і пазнавальныя здольнасьці, а музыкі, як правіла, маюць вышэйшы каэфіцыент інтэлекту.

Музыка зьмякчае боль – лічыць прафэсар Мэцью Рой (Mathiew Roy) з Манрэальскага Ўнівэрсытэту. Ён папрасіў 25 добраахвотнікаў расставіць у сьпісе 30 кароткіх музычных твораў – ад найболей да найменей прыемнага для іх. Сярод першых пераважала клясычная музыка і джазавыя стандарты. На прыцілегліым канцы апынуўся heavy metal. Затым тры самыя прыемныя і тры найболей непрыемныя творы далі паслухаць 12-ці іншым добраахвотнікам, адначасова дакранаючыся да іхнага пляча невялікай прыладай, падагрэтай да тэмпэратуры, пры якой чалавек пачынае адчуваць боль – каля 45 градусаў Цэльсія. Удзельнікі дасьледаваньня павінны былі акрэсьліць, наколькі моцнае іўражаньне зрабіла на іх гэтая музыка. Аказалася, што прыемная музыка адчувальна зьмякчае суб'ектыўнае адчуваньне болю.

Мэцью Рой спадзяецца, што вынікі ягоных дасьледаваньняў будуць скарыстаныя пры лячэньні людзей, якія пакутуюць з прычыны хранічнага болю.

**Кастусь БАНДАРУК,**
**Прага**
*Радыё Свабода*

# Антыкілер на продаж



У пракат выйшаў «Антыкілер-2» рэжысёра Ягора Канчалоўскага, прычым яго старт быў уражлівы - адразу ў 162 копіях. Гэта азначае, што творцы карціны разлічваюць на шырокі поспех сярод расійскай публікі.

У новым «Антыкілеры» лёгка ўгледзець ідэалогію: калі раней герой Гошы Куценкі па мянушцы Ліс быў ментом-ізгоем, які супрацьдзейнічаў дрэнным хросным бацькам, то цяпер ён мент у законе, які знішчае каўказскіх тэрарыстаў, яўных чачэнцаў. Гэтыя абрэкі прагнуць адпомсціць мужным супрацоўнікам СОБРу за палон свайго ваенна-палітычнага воддзе – генерала Адуева і ўчыніць глабальны тэракт у рускім правінцыйным гарадку. У фільме дастаткова элементаў, каб западозрыць рэжысёра ў нянавісці да іншародцаў, лютай чачэнафобіі і прымітыўнай русафіліі. Але, на погляд аўтара гэтых радкоў, навешваць на Ягора Канчалоўскага ярлык прыхільніка імперскай ідэалогіі было б наіўна. Ён – нармальны цынік, як і большыня рэжысёраў на свеце. Ён ведае, чаго чакае аўдыторыя.

Фільм сапраўды можна разглядаць як непаліткарэктна-антычачэнскі. Там пра чачэнцаў гавораць: «Гэта не людзі, гэта мутанты». Там чачэнцы бязлітасныя не толькі да расіянаў-патрыётаў, але і да сваіх (шахідка – родная сястра галоўнага злачынцы – здзяйсняе бессэнсоўны камікадзе-выбух па яго асабістым загадзе). Як яны распраўляюцца са спадарожнікамі – прадажнымі ментамі і дрэннымі рускімі бандытамі – надта паказальна. Яны іх знішчаюць незразумела толькі дзеля чаго. А дзеля таго, каб гледачы добра засвоілі: звязвацца з гэтымі свалачамі нельга ніяк! Паглядзіце, што адбываецца з тымі наіўнымі і прагнымі, хто паспрабаваў ім прадацца! Разам з тым «Антыкілер-2» нацыяналістычны толькі для таго, каб сабраць паболей грошай. У дадатак, парыруючы магчымыя абвінавачванні, Ягор Канчалоўскі вывеў у фільме як галоўных ворагаў яшчэ і фашыстаў-скінхедаў.

Больш сур'ёзныя прэтэнзія да фільма - апраўданне бандытаў рускай нацыянальнасці. У фільме добрыя героі і Шакурава, і Бортніка, якія аказваюцца ў адным шэразе з добрымі ментамі супраць тэрарыстаў і іхных памагатых з міліцыі і мафіі. Гэта характэрна для новарускага кіно - рамантызаваць злодзеяў, шмат хто з якіх спансіруе расійскі кінабізнес і прагне палепшыць свой грамадскі імідж.

**Ю.ГЛАДЗІЛЬШЧЫКАЎ**

# «Ролінгаў» любяць

Самая легендарная з рок-суполак – Rolling Stones – зарабіла па выніках апошняга сусветнага турнэ, прысвечанага 40-годдзю групы, 300 мільёнаў даляраў. Агулам Мік Джагер з кампаньёнамі адыгралі 116 канцэртаў. Іх наведалі 3,5 мільёны чалавек. Квіткі, кошт якіх дасягаў 350 даляраў, разляталіся імгненна. На канцэртныя даходы паўплывала тое, што прыйшлося адмяніць шэраг канцэртаў у Азіі, калі там была эпідэмія атыпічнай пнеўманіі. Па выніках турнэ музыканты выпусцілі DVD, на якім прадстаўлены лепшыя канцэрты групы, здымкі рэпетыцыяў, а таксама кадры з жыцця Джагера, Рычардса, Вуда і Уотса.



Ролінг Стоунз – англійская музычная група. Створана ў пачатку 1960-х. Першы склад: Мік Джагер – вакал, Брайян Джонс – сола-гітара, вакал, Кіт Рычардс – рытм-гітара, вакал, Біл Уаймэн – бас-гітара, Чарлі Уотс – ударныя. Вось ужо болей за трыццаць гадоў , з моманту распаду «Бітлз», Ролінгі маюць статус галоўнай групы рок-н-рола. У сярэдзіне 1980-х гадоў група на час развалілася, што адпавядала часу, якому была чужая іх музыка. Але неўзабаве яны ўз'ядналіся, калі цікавасць да іх жорсткага стылю рэзка ўзрасла. Іх паспяховая дзейнасць на пачатку 21 стагоддзя сведчыць аб жыццяздольнасці ветэранаў рок-н-рола.

# ГРУ – 200

***Атрад спецыяльнага прызначэння расстрэльваў сведак уласных злачынстваў. (Згодна з неафіцыйнымі ўмоўнымі азначэннямі, «ГРУЗ–200» азначае труп, а «ГРУЗ–300» – параненага)***

Нагадаем, пра што размова. Што, па-першае, уяўляюць сабой «эскадроны смерці» ў Чачні? І ад якіх злачынстваў зараз намагаюцца адхрысціцца на судзе ў Растове тры іх байцы, якія прадстаўляюць элітны атрад спецпрызначэння ГРУ Генштаба, – капітан Ульман, лейтэнант Калаганскі і прапаршчык Ваяводзін, па-другое?

11 студзеня 2002 года на заваленай снегам горнай дарозе ля ўсходняга ўскрайку пасялення Дай Шатойскага раёна Чачні дзесяць байцоў атрада спецыяльнага прызначэння Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Генштаба (разведгрупа № 513 в/ч 87341 пад начальнам капітана Эдуарда Ульмана), якія дэсантаваліся з паветра, згодна з загадам штаба Аб'яднанай групоўкі, на пошукі «раненага Хатаба», – ніякага Хатаба не знайшлі, але затое забілі, а потым яшчэ і спалілі шэсць чалавек чачэнцаў, што сустрэліся ім на дарозе.

Пяць мужчын, ніяк не падобных на шырока вядомага саудыта, і цяжарную жанчыну. Прычым, бачачы, што яна цяжарная: гэта значыць свядома расстрэльвалі і палілі гэтых дваіх. І маці, і яе дзіця.

Пакаранымі смерцю аказаліся пасажыры і кіроўца рэйсавага «уазіка», які кожны дзень курсіраваў па горнай дарозе ад райцэнтра Шатой па сёлах у бок дагестанскай мяжы. 11 студзеня імі былі: Зайнап Джаватханаў, 41-гадовая маці семярых дзяцей, якая чакала восьмага, інвалід другой групы з сяла Ночхі-Келой, дырэктар Ночхі-Келойскай сельскай школы 68-гадовы Саід-Магамед Аласханаў і завуч Абдул-Вахаб Сатабаеў, якія вярталіся з раённай настаўніцкай нарады, мясцовы ляснік Шахбан Бахаеў. І кіроўца Хамзат Тубураў – жыхар Дая. Ад гэтых пяцёх засталіся толькі па некалькі апаленых костак, якія завярнулі ў белыя прасціны і пахавалі, нібыта немаўлят... Так усё выглядала.

Шостым стаў 22-гадовы пляменнік цяжарнай Зайнап, які вызваўся яе праводзіць да дому, – Магамед Мусаеў з сяла Старыя Атагі. Магамед – адзіны, чыё цела ацалела. Калі пачаўся расстрэл, хлопец кінуўся з абрыва да ракі, там яго дагнала куля, гэзрушнікі паляненаваліся ісці па глыбокім снезе за трупам, і таму сям'і засталося, што пахаваць.

Такім чынам, 11 студзеня 2002 года ў Чачні стала на 28 сіротаў болей...

Тое, што здарылася ля закінутай фермы на ўскрайку Дая, не стала шокам для Чачні (а ўся астатняя Расія і наогул не папярхнулася). Расстрэл уразіў, але крыху. Прычына простая: бо гэта было тыповае смяротнае пакаранне часоў другой чачэнскай вайны сіламі аднаго з «эскадронаў смерці». Апошнімі тут называюць лятучыя атрады ГРУ (у той жа якасці яшчэ выступаюць спецатрады, якія ведамасна прыналежаць Унутраным войскам і ФСБ) – яны выконваюць самую брудную працу «санітараў лесу», як самі яны часта сябе велічаюць. Калі «санітарыць» на іхнай мове азначае здзяйсняць самасуд, забіваць людзей па прыгаворы, які выносіцца проста на месцы, па ўласным разуменні і аднаасобна сфармуляваным падазрэнні. Здараецца, што і без падазрэння... І гэта – побыт «антытэрарыстычнай» аперацыі. У кожным сяленні Чачні табе раскажуць сваю ўласную «дайскую» трагедыю. Вось і не было шоку...

Нетыповым стала наступнае – забойства ўдалося раскрыць па гарачых слядах і нават расследаваць. Дзякуючы сведкам, галоўным з якіх аказаўся «свой», федэрал, што амаль ніколі не здараецца. Першым крывавыя сляды на дайскім снезе ўбачыў тагачасны намеснік ваеннага каменданта Шатойскага раёна, начальнік ваеннай разведкі маёр Віталь Неўмяржыцкі – у той дзень яго таксама паднялі па трывозе на пошукі «раненага Хатаба», і маёр са сваім падраздзяленнем рухаўся па горнай дарозе. Маёр спытаў гэзрушнікаў: «Што, праблемы?» – і праехаў далей, але калі вяртаўся, натрапіў на самаробны крэматорый і выклікаў па рацыі пракурораў з Шатоя. Тыя – ваенных калегаў з бліжэйшага палка. Выканаўцы забойства былі ўзятыя пад варту. Месца трагедыі старанна даследавалі, рэчавыя доказы не зніклі. Крымінальную справу прыняў да вытворчасці рашучы палкоўнік юстыцыі – ваенны пракурор Андрэй Вяршынін і і зрабіў на гэтым першым этапе расследавання ўсё, каб дайская справа потым не развалілася, а абвінавачаныя не разляцеліся па гарнізонах Расіі, як гэта звычайна тут здараецца ў падобных выпадках.



Адзінае, што аказалася не па сілах ваеннай пракуратуры, – гэта зламіць Генштаб, які ў Маскве. Там паказалі зубы, і з-пад удару быў выведзены заказчык забойства – маёр Анатоль Пераляўскі. Гэтым адбельваннем займалася ўжо следчая група па асоба важных справах следчага ўпраўлення Галоўнай ваеннай пракуратуры, а не палкоўнік Вяршынін у гарнізоннай пракуратуры ў Шатойскім раёне.

Менавіта ГВП даваляла дайскую справу да суда. Праўда, у кастрываваным выглядзе, калі на лаве падсудных – толькі трое. Ульман – 30 гадоў, ураджэнец Новасібірска, ён адзіны правёў час да суда ў турме. Затое два іншыя – Аляксандр Калаганскі, 26-гадовы лейтэнант, і прапаршчык Уладзімір Ваяводзін, 24 гадоў, – тыя, што ўласнаручна расстрэльвалі ў сліну, – адбыўшы ў СІЗА па дзевяць месяцаў, з 22 лістапада 2002 года на свабодзе, бо следства (ГВП) не хадайнічала аб працягу тэрміну ўтрымання пад вартай! І цяпер у іх – падпіска аб нявыездзе. Прычым з адначасовым пераводам з далёкіх сібірскіх гарнізонаў у падмаскоўнае Шчолкава, дзе месціцца адна з базаў ГРУ, што на мове ваенных азначае заахвочванне дадзенага вайскоўца. Падобныя пераводы, расказваюць, адбываюцца толькі з асабістага распараджэння начальніка Генштаба Анатоля Квашніна, і, болей за тое, такіх яго «даруннкаў» гадамі чакаюць шмат хто з афіцэраў.

Застаецца дадаць няшмат: хто ж гэтыя людзі, якія здзейснілі дайскае забойства? Калі мы першымі апублікавалі падрабязнасці падзей, ваенныя ўлады, а ўслед за імі і шмат хто яшчэ ў Маскве заварушыліся – знoўку ганьбуюць армію! Маўляў, няпраўда, ГРУ не дзеля таго ў нас створана, існуе і трэніруецца, каб паліць нашых грамадзянаў, – яго справа паліць грамадзянаў іншых краінаў і выконваць самыя цяжкія задачы на тэрыторыі іншых дзяржаваў...

І гэта праўда. ГРУ – не для Чачні, гэта значыць не для грамадзянскіх войнаў на ўласнай зямлі. Аднак, нягледзячы ні на што, ГРУ – у Чачні, як на варожай тэрыторыі.

Дасюль дайская трагедыя нічому не навучыла. «Эскадроны смерці» ўсё «санітараць», а генералітэт і Генштаб усё не скупяцца на дастатковае баявое папаўненне – людзей, сапраўды натрэніраваных дзяржавай забіваць, пра гэта не задумваючыся. На новых Ульмана, Калаганскага, Ваяводзіна, якія толькі «творча» ўвасобілі ў жыццё злачынства, арганізаванае зверху.

**Ганна ПАЛІТКОЎСКАЯ**

**Аглядальнік «Новай газеты»**

*Novajagazeta.ru*

# «Валадар кольцаў»

Апошняя карціна трылогіі «Валадар Кольцаў» па Талкіену «Вяртанне караля», прэм'ера якой адбылася ў сталіцы Новай Зеландыі Велінгтоне, як падаецца, услед за «Тытанікам» пераадолее мяжу ў 1 мільярд касавых збораў. Фільмы па «Валадару кольцаў» зраўняліся поспехам з «Гары Потэрам», які сабраў агулам каля 1,8 мільярда даляраў, і на 500 мільёнаў перавышаюць касавыя зборы «Матрыцы».

Правядзенне прэм'еры ў Велінгтоне было парушэннем маркетынгавай логікі. Пра гэта кажуць усе спецыялісты. Але гэты крок быў данінай павагі кінакампаніі New Line Cinema ў адносінах да геніяльнага рэжысёра Пітэра Джэксана, які вельмі жадаў зрабіць прэм'еру на сваёй радзіме. Наступныя прэм'еры ў Берліне, Лондане, Нью-Ёрку і Лос-Анджэлесе маюць ужо другараднае значэнне, хоць на лонданскую прэм'еру збіраюцца ўсе зоркі «Валадара».

Вытворчасць фільма ў Новай Зеландыі на мясцовых рэсурсах рэзка паменшыла выдаткі на фільм. Кінастудыя New Line Cinema рызыкавала, калі прыступіла да стварэння двух фільмаў трылогіі адначасна, бо калі б яны пацярпелі паражэнне, студыя, хутчэй за ўсё, проста перастала б існаваць.

Некаторыя колькасныя паказчыкі дазваляюць лепш уявіць аб'ём працы і папулярнасці фільмаў:

1,8 мільярда даляраў - даход ад касавых збораў ва ўсім свеце ад першых дзвюх карцін трылогіі,

200 тысяч удзельнікаў батальных сцэнаў, створаных пры дапамозе лічбавых тэхналогіяў,

12,5 мільёнаў кольцаў, зробленых для кальчуг герояў двума касцюмерамі, у якіх за тры гады ад цяжкай працы сцерліся нават адбіткі пальцаў,

3 адзнятага 6-гадзіннага матэрыялу аўтары пакінулі толькі 192 хвіліны дзеяння,

80 тысяч даляраў - кошт кавы, выпітай удзельнікамі здымачнай групы,

26 тысяч статыстаў удзельнічалі ў масавых сцэнах фільма,

16 тысяч даляраў каштавалі аўтарскія правы, выкупленыя ў нашчадкаў Талкіена,

40.933 лісты адправілі фанаты, якія патрабалі вярнуць у фільм выразаныя сцэны з Крыстоферам Лі (Саруманам),

1,6 мільёна загрузак на дзень трэйлера фільма, які выкладзены ў інтэрнеце.


Ліў Тайлер (выканаўца ролі Арвен)


Ян Макелен (у фільме – Гэндальф)




# Ад пораху да базы на Месяцы

Порах і першую ракету вынайшлі кітайцы. Яна називалася «Вогненная страла» і ўяўляла сабой папяровую трубку, набітую порахам і прывязаную да звычайнай стралы. Парахавы зарад павялічваў даўжыню палёта да 300 метраў (на 100 метраў болей за звычайную).

У 15 стагоддзі кітайцы адкрылі «палёты» на месяц. У тагачасных хроніках засведчаны палёт мандарына Ван-Гу на неба. Ён збудаваў нязвычны агрэгат – сядзенне, прымацаванае да двух паветраных змеяў, з навешанымі 47 парахавымі ракетамі. Слугі адначасна падпалілі ракеты і Ван-Гу назаўжды ўзляцеў на неба. Гэты першы кітайскі «касманаўт» увайшоў у гісторыю засваення космасу – імем Ван-Гу названы кратэр у самым цэнтры адваротнага боку Месяца.

**Бацька касманаўтыкі**

Заснавальнік кітайскай касманаўтыкі Цзэн Ху-Шэн нарадзіўся ў 1911 годзе. У 1935 ён паехаў вучыцца ў Злучаныя Штаты. Праз тры гады Ху-Шэн стаў адным з заснавальнікаў JPL – галоўнай касмічнай лабараторыі ЗША. У 1945 годзе яму даручылі заданне дзяржаўнай важнасці – сабраць і вывезці з акупаванай Германіі ўсе матэрыялы па ракетнай праграме рэйха. У 1949 годзе кітаец распрацаваў гэтак званы «Касмаплан Цзэна». Гэты праект быў пакладзены ў аснову амерыканскай праграмы «Спейс шатл». У 1950 годзе ФБР бярэ вядомага вучонага, грамадзяніна ЗША, камуніста Цзэна Ху-Шэна пад хатні арышт. Толькі ў 1955 годзе ў выніку міжнародных перамоваў прэзідэнт Эйзенхаўэр аддае кітайскага ракетчыка КНР.

Ягоны вопыт дазволіў КНР выпрабаваць у 1961 годзе ўласную версію савецкай балістычнай ракеты Р-2, якая ў сваю чаргу была амаль цалкам скапіравана з нямецкай «Фау-2», а ў 1966 паставіць на ўзбраенне міжкантынентальную балістычную ракету. У 1970 годзе ўдалося запусціць першы кітайскі спадарожнік «Донгфангхонг-1» («Чырвоны Усход-1»). Наступныя 10 гадоў канструктар распрацоўваў пілатуемы касмічны карабель, а ў траўні 1980 года паспяхова выпрабаваў беспілотны прататып карабля. Кітайскія інжынеры ўдасканалілі ракету-носьбіт «Чанчжэн» («Вялікі паход»), з дапамогай якой сталі запускаць у космас не толькі свае апараты, але і камерцыйныя спадарожнікі замежных дзяржаў. Да кастрычніка 2000 года КНР запусціла 47 апаратаў (паспяховыя запускі склалі болей за 90%). Сёння Кітай мае тры касмадромы, аўтаматычныя караблі з вяртаемай капсулай (апроч Кітая толькі ЗША і РФ умеюць вяртаць грузы з арбіты), пілатуемыя караблі «Шэньчжоу» («Чароўная лодка»).

**«Чароўная лодка»**

У лістападзе 1999 года адбыўся першы беспілотны палёт касмічнага кітайскага карабля «Шэньчжоу-1», а ў студзені 2001 года «Шэньчжоу-2» вазіў на цэлы тыдзень у космас малпу, сабаку, труса і слізнякоў.

Арбітальны модуль «Шэньчжоу-3» прабыў у космасе паўгода. А восень гэтага года адзначана палётам кітайскага касманаўта. Укітайскім атрадзе касманаўтаў (юаньгуаней – як іх называюць на радзіме) цяпер 12 чалавек. Для іх ёсць адно абмежаванне – рост не павінен перавышаць 170 сантыметраў, а вага – 64 кілаграмы. Дарэчы, першыя савецкія і амерыканскія касманаўты таксама падбіраліся з улікам адпаведнасці невялікім кабінам першых караблёў.

**Фантастычныя планы**

Распрацаваныя Кітаем планы засваення космасу ўражваюць. У наступным годзе плануецца стыкоўка караблёў «Шэньчжоу» і выхад касманаўтаў у адкрыты космас. Праз год – вывад на арбіту пілатуемай арбітальнай станцыі і палёт да Месяца аўтаматычнай станцыі. У 2011 годзе да Месяца будзе пасланы месяцаход. На 2016 год сплянаваны пілатуемы аблёт Месяца, на 2020 - высадка касманаўтаў на Месяц, а праз дзесяць год пасля гэтага кітайцы створаць на Месяцы базу, прыдатную для насельнікаў.

Такім чынам, да 2020-2030 года КНР мае намер не толькі дагнаць Расію і ЗША ў засваенні космасу, але і апярэдзіць іх.

Мікалай ДЗІСЬ-ВАЙНАРОЎСКІ

## Таямніцы



## Загадка для медыцыны

Праладу Джані 76 гадоў. Па яго словах, 68 з іх не прымае ежу і ваду. Яшчэ ва ўзросце 8 гадоў яму ўявілася багіня, якая дала блаславенне на святое жыццё. З таго часу ён жыве ў пячэры, пастаянна знаходзячыся ў стане, які ў індуізме называецца «самадхі». Да Пралада Джані прыходзіць шмат паломнікаў. Аднак скептыкі распаўсюджвалі чуткі, што не можа быць, каб чалавек паўстагоддзя не еў і тым болей не піў. Святы вырашыў прайсці медыцынскае абследаванне, каб абвергнуць недавер скептыкаў. Яно праводзіцца ў шпіталі Стэрліг у Ахмедабадзе.

У палаце Джані былі ўсталяваныя відэакамеры, якія фіксуюць кожны яго рух. Увесь час эксперымента Джані не прымае душ, каб яго не абвінавацілі, што ён патаемна п'е ваду. Адзіна яму даюць 100 мл вады, якой святы апаласквае рот, а потым сплёўвае яе ў спецыяльную міску з вагамі. Вагі сведчаць, што Джані не глытае ні кроплі вады. Дактары пасля абследавання прыйшлі да высновы, што арганізм Джані функцыянуе нармальна. У святога няма ніводнага захворвання. Нягледзячы на паважаны ўзрост, Джані знаходзіцца ў выдатнай фізічнай форме. Дактары адзначылі, што ў арганізме Джані не выпрацоўваецца кал, і такі чын жыцця звычайны для яго арганізма. Псіхічны стан Джані таксама прызнаны выдатным. Ён не раздражняецца, заўсёды ў добразычлівым настроі. Дактары ніяк не могуць растлумачыць феномен, які ім даводзіцца назіраць.

## Хуткасны цягнік



Абсалютны рэкорд хуткасці ў 581 кіламетр на гадзіну ўстанавіў у Японіі эксперыментальны цягнік на магнітнай падушцы. Ён рухаўся па спецыяльнай трасе даўжынёй 18,4 кіламетра на востраве Хансю. Цягнік перасягнуў свой ранейшы ўласны рэкорд, калі развіў хуткасць у 560 кіламетраў. Цягнік на магнітнай падушцы падымаецца над палатном на 10 сантыметраў і ляціць пад уздзеяннем высокатэмпературных звышправаднікоў. Распрацоўкай хуткасных цягнікоў займаецца чыгуначная кампанія JR Tokay. Разлічваюць, што рэальныя транспартныя сродкі на магнітнай падушцы будуць рухацца з хуткасцю 500 кіламетраў і заменяць звычайныя электрычкі. Першы еўрапейскі камерцыйны праект такога цягніка будзе прадстаўлены ў Шанхаі ў наступным годзе.

## Жаночыя вынаходствы

Англічанка Дэбора Йяфэ выпусціла кнігу «Вынаходлівыя жанчыны», у якой сабрала практычна ўсе тэхнічныя дасягненні прыгожай паловы чалавецтва. Яшчэ ў 1886 годзе Джазэфіна Кохран, якой абрыдла мыць посуд рукамі, распрацавала эскізы, па якіх ужо ў наш час была створана машына для мыцця посуду. Марыён Данаван вынайшла аднаразовыя падгузнікі, без якіх сёння цяжка ўявіць жыццё сучасных немаўлятак. Дачка лорда Байрана, Ада Лаўлас, прымала актыўны ўдзел у распрацоўцы і зборцы гэтак званага «аналітычнага рухавіка», які з'яўляецца прататыпам сучаснага камп'ютэра. Першым чалавекам, які разгледзеў дно акіяна, стала Сара Матэр, якая вынайшла і запатэнтавала глыбакаводны тэлескоп. Амерыканка Мэры Андэрсен падаравала усім кіроўцам аўтамашын «дворнікі» для ачысткі шкла. У 1971 годзе Стэфані Кволлек вынайшла кулепрабівальны матэрыял, з якога сталі шыць «бронежылеты», якія ўратавалі шмат чалавечых жыццяў.

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13

E-mail: nchas@tbm.org.by
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні УП «Светач».
Ліцэнзія ЛП № 187 ад 09.01.2003 г.
220030, Мінск, вул. Першамайская, 7. Замова № 2166
Падпісана да друку 28.11.2003 (12:00).
Наклад 2 300 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе: Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 288-23-52, 284-85-11